PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 3667714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 34 (1841) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 25 ЖНІЎНЯ 1991 Г. ЦАНА 1000 ЗЛ.

## ТРАВА ЗАБЫЦЦЯ

**Залешаны, 29 студзеня 1946**

У Залешаны я выбраўся 2 жніўня, у дзень святога Ільі-Прарока. У час жніва й сенакосу будзённым днём мала каго ў вёсцы застанеш. А Ільлю на Беласточчыне беларусы святкуюць паўсюдна.

Дарожныя ўказальнікі на Залешаны на шашы Бельск-Кляшчэлі - два: налева і направа. Наш самаход паварочвае налева. Выбіраем добра: трапляем, так бы мовіць, у асноўныя Залешаны. Па другі бок шашы два прысёлкі: Залешаны-Сады й Залешаны-Равы.

- Я вам нічога не скажу, бо амаль нічога не памятаю, - кажа мне залешанскі солтыс Міхал Леанчук. - Мне было тады - колькі? - усяго чатыры гады.

Тым, хто выжыў, зараз ужо мусіць быць пад семдзесят.

Падыходзіць да нас яшчэ адзін гаспадар, Пётр Лукашук, зацікаўлены, мабыць, не надта ўжо частым госцем у сваёй вёсцы. Выцягваю з кішэні пачак папяросаў, а з сумкі свежыя „Нівы". У Залешанах я ўсяго другі раз у жыцці, з нікім тут не знаёмы. Найважнейшае - каб паверылі, што свой. Мова, яна тут самая істотная.

Няшмат з кім тут паразмаўляеш. Старыя, што засталіся, альбо ўжо з ложка не ўстаюць, даходзяць, альбо розум у іх папсаваны. Трэба гаварыць з тымі, што на той час былі ў падлетках, мелі па чатырнаццаць-пятнаццаць гадоў.

- Завяду вас да Ніны Лемеш, - кажа солтыс. - Яна можа добра расказаць. І чалавек яе таксама, але ён у Гайнаўку збіраўся, і хіба ўжо паехаў.

Цётка Ніна (з дому - Сахарчук) пражыла ў Залешанах увесь свой век: выйшла замуж у сваёй вёсцы. Яна, як аказалася, адзін з тых пяці-шасці чалавек, што памятаюць і могуць расказаць. Яе не спужаў мой дыктафон, які я паставіў на столік-шафку на кухні, не даваяраючы занатоўкам уручную. Тон голасу, яго на паперы не запішаш. Але нейк кампенсаваць можна. Так званымі літаратурнымі сродкамі, што-колечы гэта ні азначала б.

- Была зіма, аж тут ламочуць у дзверы, - пачала цётка Ніна. - Мы ўжо былі ляглі. Глянулі ў акно - якоесь войска. Ну, тады банды штораз то на вёсках хадзілі. Тата нашы шмыг пад печ, бо былі партыйныя. А яны, як толькі наехалі, цягаюць у кожную хату салому. То ж кожны мае насцель, мае ўсютка, а яны цягаюць салому... Папапосілі тае саломы... Ну й паказваюць для нас - войско польске... Войско то войско, што тут скажаш?..


*Абеліск залешанскім ахвярам.* *Фота Аляксандра Максімюка*

- Быў такі мой калега, Пеця, солтысаў сын... Солтыс таксама схаваўся, ён быў солтысам за саветаў. А яны з самага рання ўзялі тое дзіця і водзяць яго з сабою па цэлай вёсцы. А кругом вёскі паставілі страж - кругом, кругом... І хто ў вёску ўваходзіў, то ўжо заставаўся, ужо не выходзіў...

- Якась так сталася, што яны адвярнуліся, і нашы тата кажуць маме: дай мне што адзецца. Бо яны ў калісонах былі, а то ж зіма. Адзеліся і да хлява, шмыгнулі на вышкі, там схаваліся...

- А да нас якраз прыйшоў „Буры" (Ромуальд Райс, камандзір атрада - Я. М.). У нас была вялікая хата. Ён нас выгнаў (шчэ дзве сястры малыя былі), ён нас на кухню павыпіхаў, а сам такі стол вялікі расцягнуў, круглы, на ім такую мапу страшную разлажыў, мы ўсё бачылі, бо праз шчыліну заглядалі...

- *То вы „Бурага" бачылі ў вочы?*

- А пэўна ж. Я й сёння яго б пазнала... Во, у Беластоку, кажуць, табліцу яму навесілі, што нібы яго мардавалі, а не думалі, колькі ён памардаваў... Ну й кажуць, каб ім снядане готовадь... Пайшлі па вёсцы, націагнулі, там шынку, там тое, там сёе. Мама ім сталі есці варыць...

- А ў вёсцы ў нас быў такі Федзя, Сахарчук, трохі як бы не ў сваім розуме хлопец. А яны пайшлі туды авёс браць. А той бедны Федзя кажа, што аўса ў іх мала, вельмі мала... Узялі яго і адразу застрэлілі...

- Ну й тое... Нашы тата на вышках сядзяць... А з Сухавольцаў прыйшоў у вёску кравец, Зялінка, здаецца, а як яго імя - забыла...

- Ага, так: дзень ужо праходзіў, а яны пайшлі па вёсцы і выганяюць усіх з хатаў, заганяюць усіх у адну хату...

- *Ці памятаеце, чыя то была хата?*

- Памятаю, Сахарчука Дымітра... Дымітра і Уладзіміра, хата была вялікая, на дзве палавіны. Пазганялі цэлую вёску ў тую хату... І таксама тых, што ў Залешаны прыйшлі, і іх ужо не выпускалі. З Сухавольцаў такая дзеўчына ішла замуж, прыйшла прасіць на вяселле, Ніна Нігярэвіч называлася, яе таксама з усімі запхнулі. І з Чахоў быў хлопец, з Чахоў-Балотных... Але многа людзей

( Працяг на стар. 6 )

## ПРА АДНУ СТУДЭНЦКУЮ ПРАКТЫКУ

У днях 8-31 ліпеня гэтага года пабывала на Беласточчыне 18-асабовая група студэнтаў Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута ў Мінску. Студэнты пасяліліся былі ў Міхалове і Новай Волі, дзе займаліся архітэктанічным дакументаваннем дзвюх цэркваў ды выяўленнямі тых жа цэркваў у мастацкіх формах.

Недзе ў снежні 1990 года сакратар Галоўнага праўлення БГКТ Віктар Стахвюк, прабываючы ў Мінску, зайшоў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Студэнты Інстытута працавалі якраз над макетамі помнікаў сакральнай архітэктуры. Віктару Стахвюку падумалася, што падобную працу можна выконваць і на Беласточчыне, дзе, як сам кажа, час ад часу з невядомых прычын гараць драўляныя цэрквы - помнікі беларускай праваслаўнай архітэктуры. Яшчэ гэтага самага дня пагаварыў з дацэнтам Лявонам Дзягілевым наконт таго, ці было б магчымым практыку студэнтаў Інстытута правесці на Беласточчыне. Рашылі разгледзець фармальны бок справы - з беластоцкага боку абвязвала б гэта арганізацыю сродкаў для правядзення гэткай практыкі, а з боку Інстытута: згоду на практыку па-за межамі Рэспублікі і апрацоўку зместу практыкі.

Прэзідыум Галоўнага праўлення БГКТ акцэптаваў ідэю практыкі студэнтаў з Беларусі на Беласточчыне ды накіраваў у Інстытут запрашэнне. Віктар Стахвюк правёў размовы ў Міністэрстве культуры і мастацтва Польшчы - у Аддзеле па пытаннях нацыянальных меншасцяў. Міністэрства прадыскутавала справу з Ваяводскім ахоўнікам помнікаў у Беластоку, у выніку чаго ў маі 1991 года адбылася рабочая сустрэча Віктара Стахвюка, Лявона Дзягілева і Ваяводскага ахоўніка помнікаў Антона Аляксіцкага, які прадставіў свае занатрабаванні на архітэктанічную дакументацыю цэркваў. З вялікай прыхільнасцю да ідэі інвентарызацыі і макетавання цэркваў Беласточчыны аднёсся Уладыка Сава, які айцу Яну Ярашуку ў Міхалове даручыў правесці падрыхтоўчыя працы, звязаныя з кватарункам і харчаваннем студэнцкіх груп.

Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут вырашыў, што аб'екты, над якімі маецца весціся праца, павінны атрымаць поўную архітэктанічную дакументацыю ды выяўленні ў мастацкіх формах. У сувязі з гэтым кіраўніцтва Інстытута скіравала

( Працяг на стар. 7)




- 52 -

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Па сутнасці пачалі мы будову Беларускага музея паўлегальна. Ніхто не даў афіцыйную згоду, але і ніхто не забараніў. Трэба сказаць тут добрае слова ў адрас былога начальніка горада ў Гайнаўцы пані Патэюк-Рудзінскай. Гэта яна пастанавіла перадаць нам бясплатна амаль аднагектаровы пляц з паўзнішчаным у цэнтры Гайнаўкі будынкам, які налічваў 900 квадратных метраў. Праўда, трэба было некалькі гадоў для таго, каб атрымаць у судзе правы на ўладанне гэтым пляцам і будынкам. Аднак, пасля многіх цяжкасцяў удалося нам афарміць гэту справу. І гэта было сур'ёзным крокам наперад. Калі б нам не ўдалося яе афарміць, маглі б мы ў любы момант страціць права не толькі на той будынак, які ўжо стаяў на ўчастку, але страціць таксама новапабудаваны музейны будынак. Так магло стацца таму, што ў праве існуе такая норма - чыя зямля, таго і будынкі. Сёння гэта ўжо нам не пагражае. З'яўляемся мы праўнымі ўладальнікамі зямлі і будынку на 99 гадоў.

Ваяводскія ўлады стараліся калі не паўстрымаць, дык прынамсі абмежаваць будову Музея. Запамятаўся мне візіт мой і Майсені ў беластоцкага ваяводы Галы. Ваявода выразна нецярплівіўся, калі Майсеня, разлажыўшы архітэктурны план Музея, тлумачыў, што і да чаго адносіцца, якія мэты Музея і якія цяжкасці спадарожнічаюць пабудове.

У канцы ваявода спыніў Майсеню і катэгарычна заявіў, што ён не згаджаецца на тое, каб Беларускі музей складаўся з трох будынкаў. Сказаў, што хопіць аднаго будынку А, а Б і Ц трэба скрэсліць як непатрэбныя. Майсеня спакойна даказваў, што перaробка архітэктурнага плана з трох на адзін будынак і знішчэнне ўжо ўзведзеных фундаментаў і сцен будынку Б будзе каштаваць намнога больш, чым прадаўжэнне будовы будынку Б і запачаткаванне будынку Ц. Я як мог падтрымліваў Майсеню, гаворачы аб маральным аспекце справы, аб той надобрай рэакцыі, якую выкліча такая перамена сярод усіх беларусаў. Злосны ваявода паслаў нас да шэфа Ваяводскага аддзела дзяржаўнага планавання, якім была пані з добрым калісьці, але дрэнным сёння, прозвішчам Дзяржынская. Дзяржынская аказалася чалавекам спакойным і зраўнаважаным, аднак цвёрда трымала лінію ваяводы і ў ніякім выпадку не падтрымлівала нашу ідэю ўвядзення Беларускага музея ў лік ваяводскіх „budow". А гэта было вельмі важнае таму, што такія грамадскія пабудовы атрымлівалі ад дзяржавы 70% фінансавых коштаў. Нягледзячы на ўсю нашу аргументацыю, так нам і не ўдалося афарміць гэту справу. Аднак, візіт наш меў адзін добры аспект. Заключаўся ён у тым, што ваяводскія ўлады, не даўшы нам на музей ніякіх грошай і нанёсшы нам такім чынам удар, не пасмелі нанесці другі ўдар у форме забароны будовы будынкаў Б і Ц.

Дзякуючы гэтаму Майсеня прадаўжаў рэалізаваць даўні план, паводле якога Беларускі музей меў складацца з трох будынкаў і яго паверхня магла налічваць 2700 квадратных метраў. Імпануючая гэта пабудова.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

---




Пасля прыняцця Сеймам заўваг Сената Прэзідэнт Рэчыпаспалітай Польскай **Лех Валэнса** падпісаў закон **„Аб адносінах дзяржавы да Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы"** і з гэтага моманту закон уступіў у сілу. Тэкст закона апублікаваў „Dziennik Ustaw" nr 66, poz. 187, а шырокае яго абмеркаванне змясціла„ Rzeczpospolita" nr 182 (2917) ад 6 жніўня 1991 года.

**У днях 13-17 жніўня 1991 года праходзіла другая частка IV паломніцтва папы Яна Паўла II на Бацькаўшчыну. У Чанстахове Ян Павел II удзельнічаў у VI Сусветным дні моладзі,** на які прыехала мільён маладых паломнікаў з 80 краін свету, у тым ліку 200 тысяч - з Савецкага Саюза.

**Сведчанне Касцёла ў таталітарнай сістэме Сярэдне-Усходняй Еўропы** - было тэмай першага ў гісторыі кангрэса тэолагаў з былых сацыялістычных краін, арганізаванага Каталіцкім Люблінскім універсітэтам. Удзельнікаў кангрэса прыняў на аўдыенцыі ў Чанстахове папа Ян Павел II.

**Праблемы тавараабмену паміж Польшчай і Беларуссю** - гэта галоўная тэма перамоваў, якія праводзіліся ў Ваяводскай управе ў Беластоку. Пішам аб гэтым у змешчанай побач інфармацыі „З Беласточчыны пойдзе збожжа".

**Сорак восьмую гадавіну паўстання ў беластоцкім гета** адзначала грамадства горада. 16 жніўня 1943 г. немцы пачалі ліквідацыю гета, у якім знаходзілася каля 60 тысяч яўрэяў. Супрацьставілася ім Яўрэйская баявая арганізацыя. Слабаўзброеныя паўстанцы змагаліся шэсць дзён. Большасць яўрэяў з беластоцкага гета немцы вывезлі ў канцлагеры, а некалькі тысяч расстралялі ў горадзе. Іх пакуты ўвекавечваюць абеліск на вуліцы Герояў гета і мемарыяльная табліца на вуліцы Іцхака Мальмеда. Кветкі ў гэтых месцах злажылі прэзідэнт горада **Лех Руткоўскі** і апошні ў Польшчы ўдзельнік паўстання **Эдуард Тышнер** з Гданьска.

У Варшаве заснаваўся выбарчы камітэт пад назвай **„Выбарчы блок меншасцяў"**. Гэту кааліцыю стварылі: Аб'яднанне украінцаў у Польшчы разам з Аб'яднаннем украінскай незалежнай моладзі, Украінскім брацтвам св. Уладзіміра і Аб'яднаннем лэмкаў, а таксама Літоўскае грамадска-культурнае таварыства, Літоўскае таварыства св. Казіміра і Грамадска-культурнае таварыства чэхаў і славакаў. Блок выставіць уласныя спіскі кандыдатаў у Сейм у некалькіх выбарчых акругах, а таксама агульнапольскі спісак. У дэкларацыі Блок прапануе ўвесці ў канстытуцыю запіс аб нацыянальных меншасцях і прыняць адпаведны закон. Упаўнамочаным Блока з'яўляецца **Юрый Рэйт** - старшыня Аб'яднання ўкраінцаў у Польшчы.

**Ужо 105 палітычных партый** зарэгістравана ў Ваяводскім судзе ў Варшаве.

# ПАВЕДАМЛЕННЕ

6 жніўня 1991 года Дзяржаўная выбарчая камісія ў Варшаве зарэгістравала Беларускі выбарчы камітэт (нумар справы: Wyb. 0100-3/21/91/. Беларускі выбарчы камітэт утвараюць тры арганізацыі беларускай меншасці ў Польшчы: Беларускае аб'яднанне студэнтаў, Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, Беларускае літаратурнае аб'яднанне "Белавежа„. Сядзіба Камітэта знаходзіцца на вул. Варшаўскай 11 у Беластоку. Паўнамоцнымі Беларускага выбарчага камітэта з'яўляюцца **Пятро Юшчук, Юры Раманюк і Юры Каліна. Пятро Юшчук з'ўляецца тым паўнамоцным, які прадстаўляе Камітэт перад выбарчымі камісіямі.**

**Беларускі выбарчы камітэт у выбарчай акрузе н-р 25 (Беластоцкае і Сувальскае ваяводствы) ставіць наступны спісак кандыдатаў у Сейм РП:**

1. **Сельвясюк Валянцін**
2. **Стахвюк Віктар**
3. **Целушэцкі Міраслаў**
4. **Багроўскі Пятро**
5. **Швед Віктар**
6. **Максімюк Аляксандр**
7. **Дамброўскі Васіль**
8. **Лукошык Уладзімір**
9. **Клімюк Анна**
10. **Сіманенка Багдан**
11. **Ляшчынскі Юры**

Кандыдатам у Сенат РП ад Беларускага выбарчага камітэта ў Беластоцкім ваяводстве з'яўляецца **Ян Чыквін.**

Беларускі выбарчы камітэт ставіць спіскі сваіх кандыдатаў у іншых выбарчых акругах.

**Аляксандр Максімюк**
*Прэзавы прадстаўнік*
*Беларускага выбарчага камітэта*

Побач (3 стар.) публікуем Праграму Беларускага выбарчага камітэта.

## З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ ПОЙДЗЕ ЗБОЖЖА

16 жніўня гэтага года ў Ваяводскай управе ў Беластоку адбылася сустрэча прадстаўнікоў ваяводскіх улад і беластоцкіх гандлёвых фірмаў з прадстаўніцтвам урада БССР наконт гандлёвых сувязяў Беласточчыны і БССР. На працягу 10 дзён абодва бакі дадуць гандлёвыя прапановы.

**Першы канкрэтны кантракт на дастаўку збожжа з Беласточчыны падпіша ФІРМА МІРАСЛАВА ЦЕЛУШЭЦКАГА І ВАЛЯНЦІНА СЕЛЬВЕСЮКА „АМЕГА" яшчэ ў жніўні. Кантракт прадугледжвае дастаўку 150 тыс. тон збожжа. Яго рэалізацыя, праўдападобна, пачнецца ў кастрычніку і будзе цягнуцца ўсю зіму.**

**(ВП)**

---










- ✱ На ўсход ад палітыкі - размова з Ежы Маркам Навакоўскім - дырэктарам Цэнтра міжнародных студыяў.
- ✱ Клопаты і радасці жыхароў Войшак
- ✱ Гандлёвыя планы нашых бізнесменаў.
- ✱ На літстаронцы - творы С. Яновіча, У. Гайдука і М. Сяднёва.
- ✱ Святыя беларускай зямлі - Афанасій Брэсцкі.
- ✱ Весткі з Белавежы і Бельска.


## ЗАПРАШАЕМ НА СУСТРЭЧЫ З „ЖЫВЫМ СЛОВАМ"!

**26 жніўня на Беласточчыну прыязджае тэатр „Жывое слова" з Педагагічнага інстытута ў Мінску. Студэнты з Беларусі будуць выступаць з цікавай мастацкай праграмай (сцэнічныя пастаноўкі і песні) кожны вечар у наступных вёсках:**

- **26 жніўня (панядзелак) - Трасцянка,**
- **27 жніўня (аўторак) - Пухлы,**
- **28 жніўня (серада) - Целушкі,**
- **29 жніўня (чацвер) - Канюкі,**
- **30 жніўня (пятніца) - Рыбалы.**

**Сардэчна запрашаем на сустрэчы з беларускім „Жывым словам"!**

# СВАЯ ЗЯМЛЯ, ХЛЕБ І ВЕРА

## ПРАГРАМА БЕЛАРУСКАГА ВЫБАРЧАГА КАМІТЭТУ

Складаны працэс эканамічных і палітычных пераменаў, запачаткаваны ў Польшчы ў 1989 годзе, паставіў пад пагрозай распаду як гаспадарчую стабільнасьць, так і пэрспэктыву дэмакратызацыі жыцьця ў краіне. На Беласточчыне гэтая пагроза адчуваецца асабліва выразна, таму што на ўвесь комплекс палітычна-эканамічных цяжкасьцяў, характэрных краіне ў цэлым, дадаткова накладаюцца спэцыфічныя варункі этнічнага, польска-беларускага, памежжа.

Беларускі Выбарчы Камітэт выступае ў парлямэнтарных выбарах 1991 году, грунтуючыся на адной асноўнай прадпасылцы:

*У дэмакратычнай Польскай Рэчыпаспалітай сужыцьцё Польскага Народу з усімі нацыянальнымі меншасьцямі будзе надзеленае талерантнасьцю, зразуменьнем і падтрыманьнем палітычных, эканамічных і культурных асьпірацыяў гэтых меншасьцяў ды пашанай нацыянальнай, рэлігійнай і культурнай іхняй адметнасьці.*

Праграма Беларускага Выбарчага Камітэту зыходзіць зь перакананьня, што без эканамічнага ўмацаваньня патэнцыялу Беласточчыны (уключна зь беларускім этнічным арэалам) немагчыма вырашыць усе астатнія праблемы на шляху да разьвіцьця нацыянальнай тоеснасьці беларусаў і наладжаньня нармальных польска-беларускіх узаемадачыненьняў у рэгіёне.

У сфэры эканомікі справай першаступеннай важнасьці зьяўляецца захаваньне сельскай гаспадаркі Беласточчыны ад банкруцтва й упадку. Каб гэтага дасягнуць, у першую чаргу трэба знайсьці рынак збыту для сельскагаспадарчай прадукцыі. Беларускі Выбарчы Камітэт пэрспэктыву гэтага рынку бачыць у сумежнай Беларусі (і ў Савецкім Саюзе ў агульнасьці).

У сувязі з гэтым Беларускі Выбарчы Камітэт выступае за:

1. Стымуляваньне гаспадарча-гандлёвых кантактаў Беласточчыны зь Беларусьсю.
2. Арганізаваньне супольных беластоцка-беларускіх прадпрыемстваў і фірмаў.
3. Пабудову й разбудову гаспадарча-паслуговай інфраструктуры на Беласточчыне з мэтай абслугоўваць сельскую гаспадарку й спыніць дэмаграфічную дэградацыю мястэчак і вёсак.
4. Прыцягненьне на Беласточчыну замежнага інвэстыцыйнага капіталу.
5. Аб'яднаньне эканамічна й цывілізацыйна адсталых гмінаў ува ўсходняй паласе ваяводзтва ў Гмінную Злучнасьць як гаспадарчую структуру дзеля спалучэньня й каардынацыі намаганьняў, якія маюць на мэце эканамічнае выратаваньне тых гмінаў.
6. Захаваньне экалягічна чыстага асяродзьдзя як асноўную ўмову атрыманьня адпаведна чыстай сельскагаспадарчай прадукцыі й забясьпечаньня адпаведных варункаў працы й адпачынку.

Усьлед за нармальнымі эканамічнымі кантактамі нашага рэгіёну з Усходам павінны йсьці шырокія й дэмакратычныя кантакты культурнага й звычайна людзкага характару. Беларуская нацыянальная меншасьць на Беласточчыне, як частка Беларускага Народу, павінна стацца натуральным лучнікам у наладжваньні гэтых кантактаў, ува ўзаемным зразуменьні й паразуменьні двух народаў, якія з увагі на геаграфічнае суседзтва й гістарычна ўзаемазьвязаны лёс павінны будаваць свае стасункі на сяброўстве й супрацоўніцтве. Датычыць гэта й народаў-сувэрэнаў, і жыхароў нашага рэгіёну, палякаў і беларусаў.

Падтрыманьне Польскай Дзяржавай культурна-асьветніцкай і рэлігійнай самарэалізацыі беларускай нацыянальнай меншасьці бачыцца нам як неабходны варунак сапраўднай нармалізацыі польска-беларускіх дачыненьняў ды інтэграцыі насельніцтва Беласточчыны дзеля дэмакратычнага сужыцьця.

У сувязі з гэтым Беларускі Выбарчы Камітэт выступае за:

1. Паўнапраўнае разьвіцьцё беларускай культуры на Беласточчыне, у народна-фальклёрных і сучасных яе праявах, і забясьпечаньне гэтага разьвіцьця парытэтнымі ў адносінах да польскай культуры інстытуцыянальнымі й матэрыяльнымі ўмовамі.
2. Мацаваньне традыцыі Праваслаўя й талерантных адносіны паміж усімі канфэсіямі ў краіне.
3. Падтрыманьне й пашырэньне навучаньня беларускай мовы ў школах на Беласточчыне.
4. Увядзеньне ў навучальны працэс на Беласточчыне элемэнтаў гісторыі й культуры рэгіёну, якія знаёмілі-б вучняў зь яго нацыянальна-культурна-рэлігійнай разнароднасьцю й выхоўвалі-б у духу пашаны да супольнай гістарычна-культурнай спадчыны.

Дзеля належнага замацаваньня правоў нацыянальных меншасьцяў у краіне Беларускі Выбарчы Камітэт выступае за ўнясеньне ў новую Канстытуцыю Польскай Рэчыпаспалітай адпаведнага запісу, які сьцьвярджаў-бы гэтыя правы ў духу міжнародных пагадненьняў і абавязацельстваў Польскай Дзяржавы.

**Беласток 1991**

*********************************************************************

# АНТОСЬ З ЛЕПЛЯ

З Антонам Васілеўскім пазнаёміўся я ў 1958 годзе. Было яму ўжо пад семдзесят. Шустры дзядок са старамоднай бародкай прынёс у рэдакцыю і апавяданне, якое пахла старасветчынай - „Шляхецкія госці". Пайшло ў адной з першых літстаронак, потым з'явілася і ў альманаху. Лёгкае, скакавітае. І аўтар не пачатковец, стартаваў у дваццатыя гады - каларытная постаць заходнебеларускага жыцця. Рэдактар, выдавец, аўтар беларускіх сатырычных часопісаў і соннікаў, вядомы віленскі хірамант. І праз увесь працоўны шлях служыў на пошце: беларускае хобі не гарантавала пражытачнага мінімума, да сваіх зацікаўленняў трэба дакладаць нямала грошай. Так было і пасля вайны, калі Антон Васілеўскі перасяліўся з сям'ёй у Глівіцы. Тут апанавала яго новая цяга - гамеапатыя (метад лячэння хваробы малымі дозамі таго лякарства, якое ў вялікіх дозах выклікае ў здаровага чалавека з'явы, падобныя на сімптомы самой хваробы). Жонка памірала ад злаякаснай пухліны. Вылечыў сваім спосабам. Пачаў памагаць іншым людзям. І пісаў, пісаў у Дзяржаўную раду: „Знайшоў проціяддзе супраць страшэннай немачы, памажыце распаўсюдзіць сродак!" Высокая рада маўчала.

Калі дзядзьку Антосю было пад



восемдзесят і ён усё гарэў маладою энергіяй, я спытаў у яго, ці часам не вынайшоў ён жыццёвы эліксір. Дзядзька ўсміхнуўся, выняў з кішэні папяровы скрутак, разгарнуў: з'явіліся маленькія жаўтаватыя шарыкі.

- Не расстаюся з імі і ў дарозе, - сказаў. - Глытну шарык - і як нованароджаны.

Абяцаў і мне падабраць выцяжку на даўгавечнасць, але я ў той час гэтым пытаннем цікавіўся толькі тэарэтычна. І, відаць, не надта давяраў рукатворным (неапетытным) дзядзькавым шарыкам.

Урэшце павіншавалі мы аздаравіцеля з ягоным 85-годдзем - і нашы сувязі абарваліся. Занепакоены маўчаннем дзядзькі з Лепля, папрасіў я Багдана Смылу (друкаваўся ў нас і жыў у Гліўіцах) наведаць калегу па пяру. Той прывёз загадкавую вестку: „У доме па вашаму адрасу (вуліца Апольская 4, кв. 9) жывуць іншыя людзі, Антона Васілеўскага не ведаюць".

Так у польскім моры згубіўся яшчэ адзін беларускі след. Ды гэта вялікая тэма. І балючая. Гінуць бясследна не толькі сведкі нашай гісторыі, але і іх архівы. 100-годдзе з дня нараджэння Антона Васілеўскага таму доказ. Як мала мы ведаем пра свайго патрыярха!

**Г. Валкавыцкі**

P.S. Навадныя арыенціры для следапытаў: нарадзіўся А. Васілеўскі 30.VIII.1891 г. Меў сына на Шлёнску і сваякоў у Беластоку. Паводле слоўніка Янкі Саламевіча, выступаў у друку пад псеўданімамі: А-Ва-Дзень, Ан-Вас, Авадзень, Анвас, Антось з Лепля, Васан, Янвас, Anwas.




### ПЛЯЦ ВОЛІ

Мы прыйшлі ў гэты свет, каб памерці...
І на гэтай праклятай Ярылам зямлі
Ускрыжоўвалі нашы сэрцы
А з людскога сумлення
Вяроўкі вілі.

Нашу жытнюю маці
Журлівіцу,
Спапялілі,
Сканала ў агні,
Ды стагоддзямі неба дзівіцца,
Не згасаюць яе вугалі.

І з далоні ў далонь жарынку
Перакідвае выстылы час,
Беражэ нібы тую скарынку,
Што зратуе ад голаду нас.

Мо прарокі
Сваёй крывёю
Здымуць той векавы праклён.
Змыюць горы рудога гною
І зазззяе бялюткі лён.

Мо халодны пажар штандараў
Здыме бельмы з людскіх вачэй,
Ды бяспамятным
Не да мараў -
Дым бяды
Усё чарней, гарчэй.

Што пакінем мы -
„Край" і „крэсы"?
Страх? Прыніжанасці пятлю?
Мы прыйшлі сюды уваскрэснуць.
І давеку
Жыве Беларусь.

### ЛЕСВІЦА Ў НЕБА

Дым Радзімы
Падорань чужыя нябёсы.
Адчаканяць аблічча
Чужыя вятры.
Стыне космас.
Прасторы жытнёвых палосаў
Зноў чакаюць
На знічы вясновай зары.

Скон жыцця карацее...
Пад сячкарняю часу
Рассыпаюцца пылам
Дабрабыту дары.
Час адцяў
Панацэю пакаяння адразу.
Распальваецца ў жылах
Самоты узрыў.

Дух народжаны вольным,
Ён не здольны на здраду,
Ён нясе нашай годнасці
Зорную ніць.
Шлях да праўды няўмольны...
Праз перыяд распаду
У святло іншасвету
Чашу сораму піць.

Зноў чакае
На знічы вясновай зары
Золкі космас
Шырокіх жытнёвых палосаў...
Ды чаканяць аблічча
Чужыя вятры.
Дым Радзімы
Курыцца у іншых нябёсах.

**ПЯТРО ЛАМАН**

## БЕЛАРУСКІЯ НАВІНЫ - 2

У пачатку жніўня гэтага года выйшаў з друку другі нумар бюлетэня Беларускага дэмакратычнага аб'яднання „Беларускія навіны". У бюлетэні пяць артыкулаў і „Хроніка беларускага палітычнага руху", якая ахоплівае перыяд ад сакавіка 1990 да ліпеня 1991.

„Беларускія навіны" адчыняе артыкул Яўгена Міpановіча „Камунальныя выбары 1990 на Беласточчыне". У агульным падліку беларускі рух гэтыя выбары прайграў - поспех паглядаўся толькі ў тых гмінах, дзе знайшліся мясцовыя дзеячы БДА, якія мелі аўтарытэт у сваім асяроддзі. Так было ў Гарадку. У Беластоку, дзе Беларускі выбарчы камітэт спалучыўся з Праваслаўным брацтвам пад назвай Кааліцыйнага выбарчага камітэта, якая зашыфравала як нацыянальную, так і канфесійную прыналежнасць кандыдатаў, - татальны разгром. У гмінах, дзе беларусы складалі 80-90 працэнтаў насельніцтва, але дзе не было дэмакратычнага актыву, уладу ўзяла старая наменклатура. Яўген Міpановіч робіць вывад, што кіруючы прынцып актыўнасці беларускага асяроддзя - пошукі бяспечных шляхоў да кар'еры. Людзі кідаюцца ўсюды - абы толькі не ў беларускі рух.

У далейшым Сакрат Яновіч прадстаўляе канцэпцыю Злучнасці гмінаў - аб'яднання шэрагу гмінаў у адзін гаспадарчы кулак, які зможа тое, што не пад сілу самотнай гміне: стварэнне супольнага рынку працы і грошай, прадукцыі і тавараў, збыту і даходаў, рэагаванне на канкурэнтныя цэны ў продажы прадуктаў і дробнапрамысловых вырабаў. Адначаснай сферай дзейнасці Злучнасці гмінаў павінна стацца ажыўленне мястэчак і рамяства ў іх. Мястэчка павінна быць лакальным цэнтрам гаспадарчага жыцця, а не этапам уцёкаў з вёскі ў горад. Трэба ведаць, кажа С. Яновіч, што зайздросная нам Заходняя Еўропа жыве і цвіце менавіта ў гмінах і мястэчках, а не ў ваяводствах.

Як галасавалі на Владзімежа Цімашэвіча ў прэзідэнцкіх выбарах 1990 года? - ставіць сабе пытанне Л. Баганец у другім нумары „Беларускіх навін". У артыкуле прыводзіцца дэталёвая статыстыка. Беларусы галасавалі за В. Цімашэвіча, бо асацыяваўся ён з папярэднім перыядам, калі гаспадар меў гарантаваны збыт на свае тавары, а таксама і таму, што як адзіны з кандыдатаў не спасылаўся на каталіцка-польскія сімвалы, якія выклікаюць насцярогу рэлігійнай і нацыянальнай меншасці. Людзі галасавалі супраць Валэнсы, супраць „Салідарнасці". Узважыўшы, што ў другім туры выбараў супраць Валэнсы наогул прагаласавала 3,5 мільёна выбаршчыкаў, наўрад ці можна сцвердзіць, што менавіта беларусы выказалі волю рэстаўрацыі камуністычнага рэжыму.

Ян Максімюк прадстаўляе некалькі сваіх заўваг наконт Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Партыйнасць БДА заключаецца ў імкненні да змагання за ўдзел сваіх членаў у публічным жыцці на тых месцах, якія ў нашай палітычнай сістэме запаўняюцца шляхам выбараў.

( Працяг на стар. 11 )

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Вёска Бяндзюга ў Міхалоўскай гміне.*
*Мал. У. Петрука*

**************************************

## БРАНСК НА ПАДЛЯШШЫ Ў ЧАСЫ БАГУСЛАВА РАДЗІВІЛА

Бранск на Падляшшы да канца XIII стагоддзя быў пад уладай рускіх князёў. Ад XIV стагоддзя змагаліся за яго беларускія, літоўскія і мазавецкія князі. Аб такіх пачатках горада над рэчкай Нурэц піша Ян Сядлецкі ў сваёй кніжцы, прысвечанай Бранску таго часу, калі ягоным старастам стаў князь Багуслаў Радзівіл (1653-1669).

Кніжка складаецца з трох асноўных раздзелаў: Бранск у XV-XVII стагоддзях, Бранск як месца земскіх судоў і шляхецкіх сеймікаў і Бранск у часы Багуслава Радзівіла. У кніжку ўключаны таксама летапіс горада з 1677-1944 гадоў і шматлікія іканаграфічныя матэрыялы.

Для нас гэта цікавая кніжка па дзвюх прычынах. Па-першае, упершыню польскі гісторык аб'ектыўна прадставіў пачаткі горада Бранска на Падляшшы і звярнуў увагу на яго няпольскі характар. Варта пры нагодзе заўважыць, што ўжо Іпацьеўскі летапіс пад 1260 годам піша аб існаванні рускіх гарадоў на Падляшшы, у тым ліку і пра Бранск. Па-другое - важнейшае - Ян Сядлецкі прадстаўляе ў сваёй кніжцы палітыку Багуслава Радзівіла. Радзівілы ў час шведскай вайны (1655-1660) імкнуліся стварыць уласную дзяржаву з беларускіх і літоўскіх зямель. Паражэнне гэтай канцэпцыі выклікала хвалю рэпрэсій супраць Радзівілаўскага дому. Надта мала мы ведаем пра тое, як гэтая сітуацыя падзейнічала на рэлігійную і гаспадарчую палітыку князя Багуслава Радзівіла. Ян Сядлецкі прапануе нам разважанні аб гэтай палітыцы на фоне гісторыі горада, старастам якога быў літоўска-беларускі магнат. Трэба заўважыць, што аўтар кніжкі робіць гэта вельмі кампетэнтна і добра. Думаю, што яго высновы актуальныя ў дачыненні да другіх Радзівілаўскіх маёмасцяў на Падляшшы (Заблудаў, Орля). Ян Сядлецкі робіць свае вывады на аснове шматлікіх дакументаў, а асабліва на карэспандэнцыі Радзівілаў. Гэта мала вядомыя крыніцы ў беларускай гістарыяграфіі і варта імі бліжэй зацікавіцца - так як варта зацікавіцца кніжкай, выдадзенай за грошы самога аўтара.

А. МІРАНОВІЧ

*) Jan Siedlecki, *Brańsk czasów Bogusława Radziwiłła 1653 - 1664 Białystok, 1991, s. 120.*

**************************************

## ДА СТАГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

- 2 -

## МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

### ЛІТАРАТУРНЫ КРЫТЫК І ПУБЛІЦЫСТ

II.**Максім Багдановіч аб Беларусі**

Ужо ў вучнёўскія гады ў Максіма Багдановіча сфарміраваўся канчатковы погляд на беларускую культуру як на гістарычную з'яву, якая мае асаблівыя адзнакі і свае задачы. Н. Г. Агурцоў кажа, што са сваіх гутарак на гэтую тэму з Багдановічам ён пераканаўся, што яму ўласціва была „якаясьці арганічна складзена вера ў Беларусь, як носьбітку канкрэтнай культуры, якая адрозніваецца ад культуры вялікарускай. Ён даказваў вельмі горача і пераканаўча, што названая Вялікарусь створана нічым іншым, як Беларуссю."

Прафесар Іван Замоцін, каб крыху змякчыць выказванні Агурцова, сцвярджае, што „у вывядзе Н. Г. Агурцова (...) хаваецца або непаразуменне, або, ва ўсякім разе, недакладнасць. Максім Багдановіч, як відаць з яго друкаванай брашуры „Белорусское возрождение", сапраўды прызнаваў прыярытэт беларускай культуры над вялікарускай у межах пэўнай гістарычнай эпохі, менавіта XVI ст., але такога рашучага погляду на паходжанне вялікарускай культуры з беларускай ён нідзе, як мне здаецца, у сваіх нарысах і артыкулах не выказвае"

Максім Багдановіч менш за ўсё нагадвае чалавека, які ў сваёй любві да роднай краіны і народа адгароджваецца ад усяго навакольнага свету. Для літаратурнага крытыка важны не толькі літаратурны твор, але таксама канкрэтныя ўмовы сацыяльна-гістарычнага, палітычнага і культурнага жыцця, у якіх дадзены твор паўстае; патрэбныя тыя фактары, што ўплываюць на літаратуру, на духоўны яе клімат, характэрны для пэўнага часу.

Упершыню ў якасці крытыка Максім Багдановіч выступіў у газеце „Наша ніва" н-р. н-р. 3, 4, 5 за 1911 г. з аглядам беларускай літаратуры „Глыбы і слаі". Рэдакцыя ў занатоўцы да выдрукаванага артыкула „Г"ыбы і слаі" было яшчэ заканчэнне - „остскріптум". „(...) Урывак „Постскріптум" быў выкрэслены сакратаром рэдакцыі „Наша ніва", і ў друк разам з усім артыкулам не трапіў па той прычыне, што Багдановіч востра крытыкаваў двух аўтараў „Нашай нівы' і клерыкальнай газеты „Беларус" Андрэя Зязюлю (Аляксандра Астрамовіча) і паэта, які схаваўся за крыптанімам „Антон В.". Такім чынам, на аснове гэтага дапаўнення да артыкула „Глыбы і слаі", мы можам пазнаць не толькі погляды самога Багдановіча, але таксама тэксту маладога крытыка дабавіла: „Пасля стацей аб нашых пісьменніках, друкаваных у н-р. н-р. 38, 40 і 43 „Нашае нівы" у тым гаду, мы даем месца працы аб іх нашага пастаяннага супрацоўніка М. Б., каторы, узіраючыся на іх з боку літаратурнай вартасці іх твораў, выказвае некалькі новых, індывідуальных поглядаў на нашу красную літаратуру".

Тэкст артыкула „Глыбы і слаі" доўгі час лічыўся поўным. Але на самай справе, як падае Ніна В. Ватацы - бібліёграф М. Багдановіча, на аснове аўтографаў высветлена, што ў тэксце пазіцыю рэдактараў „Нашай нівы' ў адносінах да твораў паэт".

Галоўная мэта для крытыка ў гэтым аглядзе - вызначыць, што літаратура сапраўды мае на сваім рахунку на сённяшні для яе дзень. Ці намнога пасунулася яна наперад у параўнанні з мінулым. Год, пра які піша Багдановіч (1910), лічыць у пэўнай ступені пераломным. Ён аптымістычна заяўляе, што колькасць літаратурных твораў і літаратурных імёнаў пачынае паступова пераходзіць у якасць. „Аднакалёрная' маса пісьменнікаў, найчасцей паслядоўнікаў Багушэвіча, тых, што

## ГУТАРКІ Ў ДАРОЗЕ

- Танька ўжо не прадае?

- Не. Ты ведаеш, што яна зрабіла? Цукар пераацанілі. За кілаграм трэба было браць 4500 зл., а яна далей прадавала па пяць тысяч. Калі людзі даведаліся, адразу пайшлі да прэзаса. Прыехаў ён на кантроль і назначыў тэрмін інвентарызацыі. Далі новую прадаўшчыцу, а яе - вон з работы. Цяпер людзі часта яе пытаюць, колькі цукар цэніцца. А яна маўчыць і чырванее.

- Вось якая! За тых пару злотых зрабіла сабе кляймо на цэлае жыццё. А цяпер вазьмі і знайдзі сабе працу!

- Дзе яе знойдзеш?! Я чула, што вясковыя магазіны зусім ліквідаваць будуць.

- Вось як! Усё непатрэбнае. Дзе цяпер навозы купіць? Самому ехаць у свет ці як?

- Як сабе хто хоча. Цяпер вядома, зялёнае святло ўсім. Гаспадарыш як хочаш, дык ўсё патрэбнае купляй, дзе хочаш. Тваё усё абясцэньваецца, а тое, што дзяржава ды прыватнікі прадаюць, усё ў цане. За літр малака не купіш бутэльку піва. Значыць, піва лепшае, чым малако.

- Няма аб чым гаварыць. Наша мяса, малако, збожжа мала платнае, бо дзяржаве не вельмі ўжо патрэбнае. На Захадзе можна купіць танней, а што будзе, калі перастануць даваць?.. Нас толькі высокімі падаткамі аблажылі.

- Ой, кепска будзе. Праз некалькі гадоў нашы гаспадаркі апусцеюць, бо хто з маладых возьме ярмо на сябе! Гаруй як вол і ўсё амаль за бясцэнак аддавай.

- Страшна цяпер глядзець у будучыню. Не ведаеш, што будзе з табой заўтра, паслязаўтра. Пражывў неяк дзень, то і Бога хвалі.

- Нам ужо адно. Штодзень бліжэй смерці, а што з нашымі дзецьмі будзе...

**АЎРОРА**

## У АБЦУГАХ (НЕ) МАГЧЫМАСЦЯЎ

Тое, што рака Нараўка, якая плыве праз Белавежу, брудная, нікога не трэба пераконваць. Хопіць з берага паглядзець у ваду. Дакладныя даследаванні вады класіфікуюць яе, у межах Белавежскай паляны, у III клас па чысціні. Ёсць жа адрэзкі, якія не адпавядаюць ніякім нормам. У такой сітуацыі ачышчальня камунальных сцёкаў - рэч неабходная! А трэба яшчэ ўявіць сабе, што Нараўка на 9-кіламетровым адрэзку мяжуе з нацыянальным паркам.

Ачышчальня - гэта інвестыцыя надта сур'ёзная на ўмовы гміны. Але папярэднім уладам усё-такі ўдалося выканаць дакументацыю і пачаць пабудову. Дакументацыю адобрыў Аддзел горадабудаўніцтва, архітэктуры і будаўнічага нагляду Ваяводскай установы ў Беластоку. З пяці тэхналагічных рашэнняў выбрана версія спалоскваных пакладаў. Такая ачышчальня танная, энергаашчадная ў пабудове і эксплуатацыі. Яна нейтралізуе да 90% сцёкаў. Ачышчальню мелі будаваць на левым беразе ракі, але хутка выявілася, што там выступае торф. Перасунуць пабудову на падмоклыя мінеральныя грунты, што каля дарогі ў Пагарэльцы, было немагчыма - не дазвалялі на гэта фінансавыя сродкі, абмежаваныя да крайнасці, да таго яшчэ не на рахунку гміны, а ў абяцаннях улад. Вырашана перанесці ачышчальню на правы бераг Нараўкі, па-суседску з... сціслым запаведнікам прыроды. Гэткае яе размяшчэнне па сённяшні дзень выклікае здзіўленне і пратэст белавежскіх навукоўцаў. Найшырэй волю свайму жалю дала д-р Амэлія Кавэцкая на старонках „Газеты Вспулчэснай" н-р 68 ад 8 красавіка г.г.

Рух на пляцы пабудовы пачаўся ў 1988 г. Паставілі два баракі, давялі напаветраную энергетычную лінію, пачалі асушаць грунт, паклалі бетонныя пліты на 3-кіламетровай даязной дарозе. У 1990 г. вычарпаліся фінансавыя сродкі і працы былі спынены. Зараз таксама грошай няма, але паявілася надзея на фінансаванне пабудовы Міністэрствам аховы асяроддзя, прыродных рэсурсаў і лясніцтва. У сакавіку г.г. адбылася сустрэча членаў Рады гміны, гміннай управы, прадстаўнікоў нацыянальнага парку і праектантаў. Праектанты згадзіліся зрабіць папраўкі ў праекце, якія зменшаць цяжар ачышчальні для запаведніка, але на змену месца пабудовы зараз ніхто не згодзіцца. Трэба было б усё пачынаць нанава, а гэта адтэрмінуе пабудову на шмат гадоў, зрэшты, і пры існуючых умовах невядома, калі яна закончыцца. Спадзяванні аптымістаў на два гады (пры забеспячэнні неабходных сродкаў!) трэба палічыць несур'ёзнымі, калі няма яшчэ ні ачышчальні, ні калектара, ні дарогі і мосту, які мае быць адначасова падпорай для калектара левабярэжнай часткі Белавежы.

Сама ачышчальня зойме тэрыторыю 2,6 га. Найвышэйшы яе элемент - комін дасягае 16 м вышыні. Прадбачваецца, што ў год будзе накоплівацца каля 1 тыс. кубаметраў асадкаў. Яны будуць сушыцца на палетках, раскінутых на пляцы ачышчальні. Іх таксічнасць пакуль што невядомая. „Запах" мае губляцца ў 300-метровай ахоўнай зоне.

Як бачым, праблемаў і клопатаў, звязаных з пабудовай белавежскай ачышчальні сцёкаў, хоць адбаўляй. Убоства гміннай касы вымушае рашэнні, некарысныя для асяроддзя і людзей. Але ж без ачышчальні не абыйсціся. І будзь тут разумны!

**ПЁТР БАЙКО**

*Фота аўтара*



**У глыбіні пушчы.**

*************************************************************************************

зніклі амаль бясследна пасля аднаго-двух твораў, пачынае адслойвацца ў „глыбы" - прыходзяць у літаратуру пісьменнікі акрэсленых індывідуальнасцей, вакол якіх гуртуюцца пісьменнікі менш яркія, ствараючы тым самым літаратурны кірунак. Багдановіч не ўжывае тэрмін „прафесіянальная літаратура", але гаворыць, па сутнасці, пра яе, пра змену літаратурнага аматарства літаратурай з пэўным мастацкім і ідэйным кірункам.

Выпрацоўка самастойных мастацкіх каштоўнасцей - у тым паэт бачыць мэту літаратуры.

Час, калі беларуская літаратура, не толькі свайму народу, але і ў сусветнай культуры панясе свой дар - для яго самы жаданы час. Пра гэта ён напіша праз тры гады, у чарговым сваім аглядзе „краснага пісьменства".

У сваім аглядзе Багдановіч не падкрэсліваў сацыяльна-грамадскую ролю літаратуры. Але сацыяльныя і грамадскія матывы і без таго былі галоўнымі, амаль адзінымі ў ранняй творчасці і Купалы, і Коласа, і ў многіх іншых пісьменнікаў.

Важнае значэнне надаваў Багдановіч светапогляду пісьменніка, яго творчаму метаду, а таксама індывідуальным асаблівасцям стылю. Усё гэта, паводле яго, істотны элемент аблічча мастака. Таму крытык аналізуе творчасць таго ці іншага пісьменніка ў яго эвалюцыі, з улікам усіх істотных абставін, якія маглі аказаць уплыў на творчае развіццё мастака. Пры аналізе творчасці пісьменніка ён не імкнуўся ахапіць усе аспекты яго ідэйна-творчага аблічча, а выдзяляў самае істотнае.

Выдзяляючы з новай плеяды (пісьменнікаў) паэтаў Купалу, аддаючы належнае яго грамадзянскім матывам, захапленню „вобразам прападаючай Беларусі", Багдановіч чакае ад яго, аднак, большай мастацкай рознабаковасці. Разглядаючы зборнік „Гусляр", піша, што ён „не вызначаецца асаблівай глыбінёй і надзвычайнасцю", што ў ім часта перапяваюцца „старыя грамадзянскія горкаўскія матывы", „чуюцца водгукі так званага мадэрнізму". Сучасны даследчык спадчыны Багдановіча - Алег Лойка, „абараняючы" яго, прыходзіць да высновы: „Строгі крытык, ён патрабаваў не перапяваць ужо сыгранных свая грамадскую ролю песень, а ўзлёту новых, нечуваных яшчэ, а таму яшчэ больш грамадскіх, дзейсных, наступальных песень. Але, як падкрэслівае Міхась Стральцоў, не менш зацікаўлены Багдановічавай творчасцю, справа са старымі матывамі была куды складней. Багдановіч не стаяў супраць „новых" грамадзянскіх матываў, але падкрэсліваў, што адных грамадзянскіх матываў мала. Таму, калі ён з задавальненнем зазначае, што „талент Купалы ўзрастае, пашырае круг сваіх тэм і ўжо не галосіць (ці - лепей - не толькі галосіць), а ўжо павявае смеласцю, жыццёвай сілай і пагардай", ён мае на думцы якраз не толькі грамадзянскую смеласць, але смеласць мастацкую. Праз тры гады крытык не абмінае сказаць, „(...) што талент Купалы развіваецца, з'яўляюцца новыя мэты, новыя спосабы творчасці, новыя формы і вобразы. Не толькі нядоля нашай вёскі і нацыянальныя справы Беларушчыны цікавяць яго. Ужо і краса прыроды, і краса кахання знайшлі сабе месца ў яго творах".

Але і іншыя сучасныя крытыкі не зусім разумелі выказванні маладога паэта. Вось як інтэрпрэтуе яго Мікола Грынчук: „Асноўным крытэрыем вартасці літаратурнага твора Багдановіч лічыць адзінства высокіх ідэйных якасцей з адпаведнай мастацкай формай іх мастацкага ўвасаблення. Паглыбленне ідэйнага зместу твораў Купалы, ад якіх павявае грамадзянскай „смеласцю, жыццёвай сілай і пагардай", адбілася і на самой паэтычнай форме вершаў... У някрасаўскім духу гучыць асноўны тэзіс артыкула: „Пясняр перш за ўсё павінен быць грамадзянінам". А што чытаем у Багдановіча: „Захоплены вобразам прападаючай Беларусі і лічачы, што пясняр перш за ўсё павінен быць грамадзянінам, ён (Купала, - Я. Т.) усю ўвагу звяртаў на тое, што казаў, не цікавячыся зусім, у якія формы і як выліваліся яго думкі. І што б там не было, а ўсё ж ткі ён будзіў гэтымі вершамі душы чытачоў, дый не толькі таму, што ліліся яны з шчырага сэрца і ў роднай мове; не, і тады ўжо ў яго творах відаць быў незвычайны паэтычны талент". „Праўда, вершаў цалкам добрых з боку формы ў Купалы і цяпер яшчэ не шмат; да таго ж і змест іх не адзначаецца асаблівай глыбінёй і надзвычайнасцю, складаючыся з старых грамадзянскіх і горкаўскіх матываў ды з водгукаў так званага „мадэрнізму"..." Поўная супрацьлегласць таму, што гаворыць даследчык (Багдановіч, - Я. Т.), - сцвярджае іншы даследчык - Рыгор Бярозкін. І мы з ім можам згадзіцца. На думку Грынчыка, асноўны тэзіс артыкула - словы Някрасава: „Пясняр перш за ўсё павінен быць грамадзянінам". Гэта тэзіс не Багдановічавага артыкула, а Купалы, толькі прыведзены і пракаменціраваны Багдановічам, якому здаецца, што, аддаючы перавагу „грамадзяніну", перад „паэтам", мы мала спрыяем мэтам мастацкай творчасці, і што, трымаючыся такога тэзіса, Купала ўсю ўвагу звяртае на змест і слаба дбае пра форму.

Патрэбная была вялікая перакананасць у высакародным прызначэнні мастацтва, любоў да самога мастацтва, каб сказаць гэта, бо ва ўсе часы для чалавека па-сапраўднаму сумленнага, самастойнага ў поглядах існуе небяспека быць незразумелым, заўсёды ёсць небяспека, што яго назавуць адсталым толькі таму, што ён не дзеліць думкі, якой яны захоплены. Літаратура значыла для яго надта многа, каб бачыць яе карысць, яе грамадскую функцыю перш за ўсё ў яе мастацкім самавызначэнні, як адметнага найвышэйшага роду чалавечай дзейнасці.

(Працяг будзе)

**ЯНІНА ТРАЧУК**

# ТРАВА ЗАБЫЦЦЯ

**( Працяг са стар. 1 )**

па хатах пазаставалася, хто дзе схаваўся, а хто, як бедна жыў, то і адзецца не меў і застаўся. Нічыпарук Марыя засталася дома, а з ёю трое дзяцей малых... Леанчук Рыгор застаўся ў хаце, і двое дзяцей... І Нічыпарук Наталля і двое дзяцей, хлопчык і дзеўчынка... І бацька іхні, Ваня Нічыпарук. Хлопец і бацька дайшлі адразу, але маці з дачкою страх як мэнчыліся перад смерцю, абгарэлі цэлыя...

- Мы найменшую нашу сястру пакінулі дома, яна ў нас якаясь хвараватая тады была. Мама сказалі, а куды ты, дзіця, пойдзеш, сядзі тут каля печы... А яно, беднае, сядзела і паварушылася, а на чыгуне стаяла патэльня, зачапіла яе і зваліла. І гук стаў вялікі. А той бандзёр, той „Буры", выбег з пісталетам, думаў, што там невядома хто. Пабачыў, што дзеўчынка, і схапіў яе за кудлы й выкінуў на двор. І сказаў, каб другі бандзёр завёў нашу Марысю туды, дзе ўсе... А яна то й амаль голенькая была... Наша хата была напроці тае, дзе ўсе сядзелі... Мама выбеглі, узялі яе на рукі, прытулілі да сябе...

- Палілі нас у панядзелак, ужо пад вечар...

- Як зганялі нас у тую хату, то сказалі: вёска ваша пойдзе з агнём, а вы Богу на ахвяру... Ну так, такі нам вырак далі...

-„Буры" ўжо з бандаю выехаў, але страж пакінуў. І яны пайшлі па вёсцы і стралялі па стрэхах з аўтаматаў, запальнымі кулямі...Людзей у Сахарчуковў поўная хата, і ўсе бачаць, як вёска гарыць.. А тыя людзі, што на хатах засталіся, сталі выбягаць. А іх сякуць з аўтаматаў. Леанчук Рыгор і двое дзяцей, Нічыпарук Марыя і трое дзяцей, хлопцы былі, і Нічыпарукі Наталля і Іван, і іхнія хлопец і дзеўчынка, я ўжо казала, бацька з сынам мусілі выбегчы, бо іх на дварэ застрэлілі, а маці з дачкою паранілі ў хаце, і яны там згарэлі, доўга і страшна енчылі... І наша хата, што напроці, ужо гарыць... А потым яны ўжо сякуць з аўтаматаў па той хаце, дзе мы ўсе, б'юць уверх, пад страху... І мы ўжо гарым. І тут віск, піск падняўся... Адны былі дзверы ад вуліцы, а другія з тылу, ад падворка... З вуліцы страляюць, а тыя дзверы ад падворка гвоздзямі забілі... Але ж там стаяў якісь, разумееце, іншы за ўсіх, якісь людскі чалавек. Ён тыя дзверы адбіў і кажа: уцекайце, уцекайце...

- Каго ж выслаць? Людзі стаяць і баяцца... Быў такі хлапчына, Лукашук Лёня, быў з бацькам, мацеры ў яго не было. І людзі кажуць: Лёня, ты бяжы, бяжы... І ўсё глядзяць. І як тое дзіця пабегла, і ніхто да яго не страляў, то грунулі ўсе. А хата ўжо трашчала і падала на нас. Макар Несцярук абгарэў страшна: рукі ў яго засталіся калекія аж да смерці. І яго швагерка, Галена... І тут хлявы гараць, і стадола, прабеглі мы каля іх і кінуліся да Тапароў, найбліжэйшай вёскі. А і там стрэлы, яны паехалі туды вёску рабаваць...

- А залешанскіх маладых мужчын, і чалавека майго будучага, хацелі ўзяць фурманамі. Параздзявалі іх дагала, засталіся яны ў адных калісонах. Але потым раздумалі - узялі толькі аднаго, ён ужо так і не вярнуўся, а рэшту разам да нас у тую хату... І тыя ж хлопцы басячком, зіма была, беглі да Тапароў... Потым ім ногі гнілі, пanaпухалі...

- Тата нашы ўцяклі, як хлеў загарэўся... Але незадоўга перад тым бачылі, як бандыты прывялі да нас пад дашок солтысавага сына, Пецю Дземянюка, і таго краўца Зялінку, ці не Аляксандр яму было, і там пастралялі... Пеці было чатырнаццаць тады, як і мне...

- Людзі як паварочаліся потым, то адно попел пабачылі. Усё згарэла датла. Не, чакайце, дзве хаты засталіся... А ўсё іншае - да попелу. І каровы, і свінкі, усё... А шчэ рок быў такі, што каровы, як на смех, усе цельныя, і ўсе амаль - з дзвюма цяляткамі. Ляжалі абгарэлыя, з жыватамі палопанымі, тыя цялятки ім вывальваліся...

*- А дзе потым людзі жылі?*

- Па вёсках, па суседніх вёсках... Да вясны. А ўжо потым сталі зямлянкі капаць... І не адны залешанцы так жылі... То ж кругом тут папалілі, і Зані, і Шпакі, і Вольку... ... Як падумаеш... Кажуць, пекла страшнае, страшны суд... Ужо хіба нам яго не будзе, мы ўжо свой перайшлі...

Доўгі час цётка Ніна перабірала ў памяці, хто яшчэ мог бы мне расказаць. Можа Васёнка (Васіліса) Младзяноўская? Розум у яе добры, кажа цётка Ніна. Але дома яе не засталі: пайшла на багаслужбу ў царкву, у Сакі.

Я зноў на вуліцы, з солтысам і Пятром Лукашуком. І яшчэ падыходзіць Сцяпан Астапкевіч. Яму тады было пятнаццаць. Але ў дыктафон дзядзька Сцяпан гаварыць не хоча. Калі так, без дыктафона, то можа.

Яшчэ раз. Аповесць Сцяпана Астапкевіча разыходзіцца з расказаным цёткай Нінай у дробязях.

Вёску запалілі не з аўтаматаў - мелі спецыяльна нарыхтаваныя паходні, імі падпальвалі хата за хатаю. Палілі ў аўторак, пераначаваўшы ў вёсцы. А як зганялі людзей у хату Сахарчукоў, з адчыненымі штыкамі, то казалі ўсім: слухалі вы раней рускіх мітынгаў, а цяпер паслухаеце нашага...

Не, гэта няпраўда, што Залешаны спалілі таму, што солтыса не знайшлі, ці каго партыйнага. Адразу мелі намер спаліць і пастраляць. Бо навошта салому ў хаты цягалі, і людзей збіралі? Каб толькі пастрашыць?

На месцы, дзе стаяла хата Сахарчукоў, зараз стаяць два крыжы: драўляны і каменны. А па другі бок вуліцы - абеліск: дата на ім чамусьці перайначана - не 29 студзеня, а 14. І піша, што людзей чатырнаццаць загінула. Няма імёнаў.

Мы пасядалі пад плотам, каля крыжоў. Яшчэ раз лічым пабітых. Выходзіць больш за чатырнаццаць...

- Драўляны крыж трэба было б падправіць, а то перакасіўся ўжо, - кажа хтось з залешанцаў. - Трэба, каб памятка нашым дзецям і ўнукам засталася.

- Ніякіх унукаў па нас тут не застанецца, - кажа яму солтыс Міхал Леанчук. - Мы дажывем тут сваё, і будзе ўсё. І хатніскі нашы зарастуць травою...

Хатніска (месца пад хату) - я першы раз чую такое слова...

Штогод, 29 студзеня, людзі збіраюць грошы і заказваюць паніхіду ў бацюшкі ў Саках. Ідзе ўся вёска.

Пасля поўдня пачало збірацца на дождж. Чакаю, калі будзе вяртацца самаходам мой брат, што паехаў далей, на Грабарку. Нейк так зышлося, што будзем пісаць пра агонь і попел, і ён, і я. І пра памяць, хіба.

Я расказваю залешанцам, што даведаўся пра Зані і Яцэвічы, што прачытаў пра „Бурага". „Бурага", дарэчы, яшчэ „не ўшанавалі". Прынамсі я не чуў. Але ягонага камандзіра „Лупашку" (Зыгмунта Шындзеляжа) - ужо так. Ягоным імем назвалі вуліцы ў Лодзі, у Сувалках...

Перад самым нашым ад'ездам вярнулася з царквы цётка Васіліса. Дзеткі, а навошта вам пра ўсё гэта пісаць? Пакіньце гэта, нашто наклікаць якую новую бяду...

Адчуваю, што нейк недарэчы гучаць мае рэплікі пра нашу памяць, пра гістарычную праўду.

Выязджаем з Залешанаў у пошугах ветру. У Залешанах шмат зелені. Калі стаяць у адным канцы вёскі, то хатаў амаль зусім не відаць за дрэвамі й агародчыкамі.

Калі-лень яшчэ вярнуся. Калі-лень, гэтае слова залешанцы не ўжываюць. Так кажуць у нас, у Ляхах. А тут наогул - калі-небудзь...

**ЯН МАКСІМЮК**

************************************************************************************************************

МАСЕЙ СЯДНЁЎ

# БЕЛАСТОЦКІ СШЫТАК

### АРТЫКУЛ ШОСТЫ

Вернемся зноў да самога, так-бы мовіць, цэнтру-штабу беларускага руху на Беласточчыне падчас вайны - да Беларускага Аб'еднаньня ў Беластоку. Загляньма яшчэ раз у самое нутро гэтае ўстановы, у кухню, у якой беларуская справа, гаворачы вобразна, варылася, пераварвалася, пяклася. Установа-ж гэтая станавіла сабой пэўны арганізм і ён мусіў так ці інакш функцыяніраваць - то зладжана, то з перабоямі.

Каб трымаць гэтую ўстанову ў строгіх руках, у ейнага кіраўніка, Хведара Ільляшэвіча, не хапала для гэтага моцнага характару. Ільляшэвіч быў добрым, інтэлігентным, але не валявым чалавекам і з гэтага карысталі ягоныя супрацоўнікі. На працу ён стараўся прыходзіць у час і рэгулярна, хоць гэта рэгулярнасьць часамі парушалася і тады пачыналася нараканьне на старшыню, на непарадкі. Ішлі да ягонага заступніка, Тамашчыка. Але той не заўсёды хацеў пастанаўляць і справа кульгала. Зрэшты, ніякая ўстанова ня можа пахваліцца поўнай зладжанасьцю. Ільляшэвіч быў абцяжаны шматлікімі абавязкамі - газэтай, гаспадарчымі справамі, раздутым камітэцкім персаналам, рознымі просьбамі, сямейнымі справамі. У яго ня было вольнага часу і ён усё рабіў пасьпешліва. Наўсьберх яму трэба было пісаць штотыднёвы Stimmungbericht (апісаньне настрою сярод насельніцтва ў дачыненьні да немцаў) - як ён тады лаяўся! Ішоў па дапамогу да Тамашчыка: страшэнна ня любіў таго „бэрыхту", але мусіў яго рабіць. Мяне ён ня крыўдзіў, стараўся, чым можна, мне дапамагчы. Але ён нічым ня мог дапамагчы майму бацьку і сястры. Гаротныя, яны нудзіліся па маці, перажывалі, сядзелі ў хібарцы бяз сталай працы. Часам бацька рабіў нешта таму-сяму прыватна. Сястру Ільляшэвіч уладзіў быў у немцаў прыбіральшчыцай, але праз некалькі дзён яе звольнілі: каб выцерці люстэрка, яна плюнула на яго. Такая, казалі, была прычына для ейнага звальненьня. Іхнае пакутніцтва дзеяла на мяне, я пачуваў сябе вінаватым перад імі за сваю бездапаможнасьць і мо недастатковы клопат пра іх. Гэта клалася на маю душу грэхам. Прадуктаў на маю польскую харчкартку давалі мала, а да нямецкай не даслужыўся. Толькі перад самым канцом, калі я мусіў пакідаць Беласток, Ляля Стаўбунік, высокаадукаваная, інтэлігентная асоба, што працавала недзе ў „вышэйшых" немцаў, дамаглася для мяне, „партызана", нямецкай карткі. Ейны „шэф", казала яна, дзівіўся, як гэта Weissruthenische Dichter сядзеў дасюль на польскай картцы. Але скарыстаць з той нямецкай карткі нам так і не давялося: я пакідаў ужо Беласток. У Лялі Стаўбунік мне з Ільляшэвічам давялося пабываць у гасьцёх. Жыла яна адна з маці ў нейкай маленькай, цеснай кватэры. Расказвала мне пра Максіма Танка, творчасьць якога высока цаніла. Паказвала ягоны зборнік „На этапах" з сьлядамі польскай цэнзуры.

Нярэдка я чуўся пакрыўджаным, лічыў сябе абыйдзеным увагай. Але гэта хутчэй ад маёй перачуленасьці. З боку Тамашчыка вычуваў нават нейкую пагарду. У выніку ўзьнік у мяне, пакрыўджанага, палемічны, гнеўны верш „Сябром" (у двукосьсі). Верш уключаны ў маю кнігу „Патушаныя зоры".

На нейкім вялікім і шумным прыняцці ў Камітэце прысутнічала і адна грэнд-дама з „сваім" панам немцам. Гэта была сьпявачка з Смаленску, нехта Мілёнушкіна - гордая, пыхлівая, заносьлівая, адзетая ўва ўсё моднае. З беларусамі, як з ніжэйшымі істотамі, яна не размаўляла - тыя ня ведалі, як яна, расейскай мовы. І я абурыўся на „паноў" і „дам" - напісаў верш „Жабраку" з прысьвятай Мілёнушкінай. Але Ільляшэвіч зьмясціў яго ў „Новай дарозе" без прысьвячэньня. Вось той верш:

ЖАБРАКУ

Як сон няжданы на яву,

# ПРА АДНУ СТУДЭНЦКУЮ ПРАКТЫКУ

( Працяг са стар. 1 )

на Беласточчыну студэнтаў наступных напрамкаў: інтэр'ершчыкаў, мэбельшчыкаў, графікаў і жывапісцаў.

Фінансавыя сродкі на ўтрыманне студэнтаў забяспечыла са сваіх рэзерваў Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Сродкі гэтыя будуць вернуты Ваяводскім ахоўнікам помнікаў узамен за дакументацыю цэркваў. Арганізацыю бытавых спраў студэнтаў узялі на сябе прыходы ў адразу - хутчэй за ўсё спатрэбіцца на яе дзесятак гадоў, але першы крок ужо зроблены. Эфектам гэткай працы павінна быць, як кажа Віктар Стахвюк, экспазіцыя ў гайнаўскім Музеі помнікаў беларускай культуры, ілюструючая багацце беларускай нацыянальнай праваслаўнай архітэктуры Беласточчыны. З кожным годам павінен узрастаць вопыт усіх заангажаваных у гэту справу людзей, што напэўна паспрыяе большай эфектыўнасці працы. Мабыць, зменіцца і сама форма студэнцкіх практык. Для жывапісу будуць створаны, бадай, невялікія рухомыя групы, якія ў часе сваёй практыкі змогуць прадставіць большую колькасць архітэктурных аб'ектаў, упісаных у свой краявід. Хто ведае, ці для выканання макет і адпостравання дэталяў інтэр'ера (іканастас, Райскія



*За працай*



*У царкве ў Новай Волі: Гардзей Шчаглоў, Віктар Стахвюк, Нінэль Аладава і Лявон Дзягілеў*

Міхалове і Новай Волі.

На Беласточчыне 130 драўляных цэркваў, некалькі дзесяткаў з якіх - непаўторныя. Кожны цывілізаваны народ дбае пра захаванне помнікаў сваёй культуры. Для прыкладу, грэкі дбаюць нават пра захаванне руінаў сваёй культуры ды паказваюць іх на тысячах паштовак і турыстычных праспектаў. На Беласточчыне, акрамя кволых спробаў, не прыкладаліся да гэтае пары намаганні дзеля захавання агромністай спадчыны будаўніцтва. У гэтым то і заключалася мэта практыкі студэнтаў Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Вядома, што такую вялікую працу не выканаеш Вароты) не спатрэбіцца арганізацыя практыкі, у большай ступені звязанай з памерамі аб'ектаў дзеля дакладнага выканання экспанатаў у майстэрні Інстытута. Сёння можна ўжо сказаць, што вынікі сёлетняй студэнцкай практыкі пацвердзілі высокае мастацкае майстэрства студэнтаў ды безумоўную кампетэнтнасць яе кіраўнікоў, якімі былі Лявон Дзягілеў, Нінэль Аладава і Кастусь Шаранговіч. Дзякуючы гэтай кампетэнтнасці ў цяжкіх бытавых умовах атрымаўся такі выдатны вынік гэтай першай практыкі. Пра штодзённыя справы студэнтаў клапаціліся святары Ян Ярашук у Міхалове і Валерыян Антасюк у Новай Волі.

31 ліпеня ў Галоўным праўленні БГКТ у Беластоку экспанавалася выстава студэнцкіх прац - архітэктанічная дакументацыя, жывапіс і макеты. Было гэта адначасна развітанне са студэнтамі. На гэтай урачыстасці ад імя Уладыкі Савы прысутнічаў айцец Анатоль Лаўрашук, які ў сваім слове да студэнтаў звярнуў увагу на важнасць іхняй працы для захавання культурнай спадчыны беларусаў Беласточчыны ды выказаў надзею, што падобныя практыкі будуць працягвацца ў будучыні. Што магу сказаць ад сябе? Істотным з'яўляецца тут факт непасрэднага знаёмства студэнтаў з багаццем беларускай архітэктуры Беласточчыны, у выніку чаго гэтая ж архітэктура пачынае быць прысутнай не толькі ў свядомасці мясцовага тут насельніцтва, але пачынае выходзіць у свет. Гэтага нам трэба.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**



*Макет Святамікалаеўскай царквы ў Міхалове ( на этапе апрацоўкі )*

*****************************************************************************************************

стаіш схіліўшыся ты каля брамы.
Падняўшы горда галаву,
праходзяць паўз цябе паны і дамы.

Анучы на табе - ні паліто,
яны ўсе знатныя уборам.
Ня даў табе нічога з іх ніхто -
спыніцца ля цябе ім сорам.

Як быццам тут не чалавек,
а камень нечакана вырас.
„От і дае-ж прырода недарэк -
не чалавек, а чалавечы выраз".

Нічога дзіўнага! Яны-б
прайшлі і бацьку свайго міма.
Прайшлі-б, як непатрэбны грыб,
праходзяць, ня спыняўшыся вачыма.

Прабач, жабрача, ім. Як ты,
з табой я стану каля брамы,
каб весялей было табе. „Браты",
падумаюць паны і дамы.

*Беласток*

На ўсіх прыняцьцях незаводна прысутнічаў Гофман і не прапушчаў магчымасьці назваць мяне партызанам, або й бальшавіком. Ільляшэвіч угаварваў яго ня крыўдзіць мяне, але той не зважаў. Замацаваўся за мной гэты „партызан" асабліва, калі Гофман даведаўся, што на маё імя ў рэдакцыю прыйшоў з лесу ліст. У газэце друкаваўся мой верш, у якім я выказваў сваю гатовасьць „аддаць сваё жыццё за волю Беларусі". Назваў я гэты верш „Пайду..." Дык у тым лісьце мяне й заклікалі: „Хадзі!" У рэдакцыі прыпушчалі, што ліст пісалі партызаны.

У Камітэт часта прыяжджалі з паляндвіцамі і гарэлкай важныя, як князькі, старшыні адзьдзелаў Аб'яднаньня. Ільляшэвіч іх ахвотна прыймаў. Часам перападала і мне ад тых паляндвіцаў. Прыяжджалі часам і жонкі старшыняў, ці якіх іншых грамадскіх дзеячоў. З маёй Гайнаўкі прыяжджала да жонкі Ільляшэвіча Спадарыня Кабаць, мілая, сымпатычная, добра выхаваная жанчына, з далікатных рук якой - калі быў у іх у гасьцёх на Вылікдзень - прыняў, як падарунак, запасны гарнітур ейнага мужа - нажаль, быў я занадта шчуплы і гарнітур той вісеў на мне. Пры сустрэчы са мной сам Кабаць крычэў, канешне жартліва: „Вітай, Пушкін". У „Новай дарозе" я выдрукаваў шмат сваіх вершаў і стаўся ўжо бадай вядомым паэтам. Калі мы аднойчы ў Белавежы падчас сьнегападу ішлі з станцыі ў госьці да Грыцука, ягоны бацька, стоячы на ганку, падаў голас: „Сьняжнёў прыехаў!". Але я ўжо, здаецца, пушчаюся ў драбніцы, праслаўляючы сябе самога. Нягожа.

Меў я ў Камітэце і нейкую дружбу - прыйшоўся мне па душы малады, таленавіты паэт Янка Богдан. Ён увесь час тырчэў у бухгальтэрыі - там працавала ягоная прыгожая Ірка. Было люба глядзець на іхную замілаванасьць, на іхнае, як у добрыя часы, рамантычнае каханьне.

Калі мяне агортваў сум, я ўцякаў у Бацечкі, што каля Беластока. Там быў у мяне знаёмы, ніштаваты гаспадар. У яго я слыў не як паэт, а як касец. Як узнагароды за касьбу мне хапала аднаго прыхільнага позірку прыгожых вачэй ягонай дачкі.

Але я мушу вылазіць з бытавізму - праўды ў ім няма. Час нам закрануць і іншае, так-бы сказаць, палітычнае пытаньне - пытаньне беларуска-нямецкіх дачыненьняў у Беласточчыне. Дачыненьні гэтыя можна было-б коратка схарактарызаваць гэтак: нягледзячы на тое, што немцы „супрацоўнічалі" з Беларускім Аб'яднаньнем у Беластоку, у Амтскамісараў, у якіх сакратаркамі працавалі полькі, беларусы найчасьцей прайгравалі. З меркаваньняў палітычнага характару, немцы аднойчы наважыліся было зрабіць стаўку на беларусаў: наладзіць моцную, энэргічную анты-бальшавіцкую маніфестацыю беларусаў (Kundbegung). Камітэт запусьціў ужо было сваю прапагандную машыну, заклікаючы беларусаў узяць удзел у маніфестацыі, як немцы - ні з бухты-барахты - раптам спынілі падрыхтоўку да яе: відавочна, не паверылі ў беларускі характар. Вось вам і дачыненьні.

А раніцай, як заўсёды, прыходжу ў Камітэт - там перапалох: выбухам бомбы пашкоджаны габінэт Ільляшэвіча. Выбух адбыўся позна ўвечары. Той, хто кідаў бомбу ў вакно, відавочна, меркаваў, што старшыня Беларускага Аб'яднаньня ў Беластоку, па звычцы, яшчэ працуе. Нерэгулярнасьць Ільляшэвіча выратавала яго і тут.

1991

*(Заканчэнне будзе)*

# У КАНЦЫ КАНЦОЎ ПАЖАНІЛІСЯ

- Я выйду толькі на хвіліну! Прашу не ад'язджаць! - сказала дзяўчына шаферу, калі пад'ехалі да Беластоцкага палаца шлюбаў на вул. Кілінскага. Затым маладая выйшла з самахода і падышла да нарачонага. Той апраўдваў немалое спазненне сваёй нерашучасцю адносна жаніцьбы.

- Калі ён такі, дык не хачу яго за мужа! - катэгарычна заявіла дзяўчына. - Паехалі дамоў!

Такія здарэнні, аказваецца, зусім не навіна беластоцкім шафёрам таксі. Пан Метэк на працягу дзевяці гадоў сваёй працы за рулём два разы вёз маладых да шлюбу, а тыя ў апошнюю хвіліну здрэйфілі.

У ПАЛАЦЫ ШЛЮБАЎ

у Беластоку жэніцца амаль 1900 пар у год. Каля сотні з іх адмаўляецца, рэзыгнуе. Тэрмін шлюбаў змяняюць па розных прычынах. Перш за ўсё гэта будуць: заграніцныя выезды, зламаная нага або жалоба... Бывае і так, што маладыя не могуць якраз знайсці свабоднай залы ў тым ці іншым рэстаране.

ЧАС НЕАКРЭСЛЕНЫ

выбірае ў сярэднім дваццаць чалавек у год. Гэтыя пары не ведалі, што зрабіць з прынесенымі ў ЗАГС дакументамі. Гаварылі, што шлюбу не будзе, можа надумаюцца праз год, або два... Некаторыя з іх пажаніліся, аднак, ужо праз некалькі месяцаў. Варта дадаць, што метрыкі нарачоных „без тэрміну" перахоўваюцца ва ўстанове толькі пяць гадоў, а затым вязуць іх на макулатуру.

Сёлета сярод тых, хто адступіўся ад жаніцьбы, першым быў 30-гадовы кавалер. Яго нарачонай была 25-гадовая дзяўчына. Толькі адзін кавалер - на працягу пяці апошніх год - сказаў „не" ў дзень свайго шлюбу. Яго дзяўчына па свае дакументы яшчэ не прыйшла.

Апошнім часам беластачанкі часта выходзяць замуж за нямецкіх грамадзян, арабаў, бельгійцаў, французаў і амерыканцаў.

У КАНЦЫ КАНЦОЎ ПАЖАНІЛІСЯ...

Напярэдадні шлюбу прынеслі свае дакументы ў ЗАГС. Маладыя ў свой апошні кавалерскі вечар, аднак, так напіўся, што нарачонай ажно адхацелася замужжа. З'явіліся праз два тыдні засаромленыя, але шчаслівыя.

ПАД СТРАЖАЙ ПАЛІЦЫЯНТАЎ

Маладыя пастанавілі пажаніцца. Вядомая рэч. Але... Маладога - а быў ён уцекачом з турмы - паўгода шукала паліцыя. Былі высланы аб'явы аб пошуках. У ЗАГСе назначылі ім тэрмін. Даведалася аб гэтым паліцыя. У вызначаны дзень прыехала маладая пара са сведкамі і васьмю калегамі маладога. У палацы шлюбаў хлопцы крыху нерваваліся: на першым паверсе ўбачылі краты. Супакоіліся на другім паверсе, дзе адбывалася галоўная ўрачыстасць і дзе... няма крат.

За парай наглядала чатырох, а можа і большая колькасць паліцыянтаў, якія замянілі на гэты раз мундзіры на цывільную вопратку. Іх камандзір не захацеў выклікаць скандал у ЗАГСе. Маладога намерыліся арыштаваць у час вясельнага пачастунку. Паехалі следам за аўтамашынай з маладажонамі і затрымаліся ля дома, у якім адбывалася вяселле. Калі, крыху счакаўшы, зайшлі ў дом, жаніха ўжо... не было. Ён загадзя ўцёк, пераапрануўшыся ў самаходзе. Ля маладой сядзеў іншы мужчына.

ПАБІЛА РЭКОРД

адна пара, якая захацела ўзяць шлюб у кастрычніку мінулага года. Пасля перасунулі яго на лістапад. У лістападзе зрабілі чарговую адтэрміноўку на студзень. Пажаніліся ўсё ж... 6 ліпеня бягучага года. Ёй 21 год, а яму 28.

ПАРВАЛІ НА ЁЙ ШЛЮБНУЮ СУКЕНКУ,

а яна і так выйшла замуж. Была 18-гадовай вясковай дзяўчынай, а ён - 30-гадовым разводнікам, з горада. Бацькі маладой, а асабліва маці, вельмі не хацелі, каб яны жаніліся. Яны сілай цягнулі яе з ЗАГСа. Дайшло да скандалу. На маладой парвалі прыгожую дарагую сукенку. Для яе не мела гэта вялікага значэння - пасчапляла яе бюровымі сашчэпкамі.

ЇСЦІ ЗА МУЖАМ НАВАТ У ГАРЭМ

намерылася іншая нарачоная. У ЗАГСе ёй сказалі, што ў краіне яе будучага мужа-араба польскі шлюб незаконны.

- Што ж, буду тады шэфовай гарэма, - адказала яна кіраўніку ЗАГСа. З тае пары „цывільны ксёндз" перастаў выбіваць з галавы замужжа сумненным парам.

ПЕНСІЯНЕРЫ У ПАЛАЦЫ ШЛЮБАЎ

не забываюць пра фінансавыя сродкі. Пытаюць, ці не прыслугоўваюць ім фінансавыя ільготы. Аказваецца, што не. Значыцца, не варта чакаць з замужжам да пенсійнага ўзросту.

* * *

Так ужо з маладымі бывае... Нявесты ў шлюбных сукенках ад'язджаюць назад, не пераступіўшы парог ЗАГСа. Нарачоныя выходзяць па запалкі ў кіёск „Рух" і ўжо не вяртаюцца. Заканыя дзяўчаты не баяцца нават гарэма.

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**



*Мал. У. Петрука*

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Міленькае Сэрцайка! Як мне хацелася б, каб твая добрая рада дапамагла мне ў жыцці!..Не разумею, што сталася, а было ж нам разам так добра. Мы з маім сённяшнім мужам „хадзілі" 8 гадоў - яшчэ з другога класа сярэдняй школы. Пажаніліся, згодна з нашымі планамі, пасля студыяў у вышэйшай школе. Праўда (было гэта на другім курсе), я была зацяжарыла. Абое студэнты - што ж было рабіць... Мы разам справу абмеркавалі і вырашылі маёй цяжарнасці пазбыцца. Я зрабіла аборт. Думалі, што на дзіця мы яшчэ час маем, а вось на другім курсе яно магло б абазначаць канец маёй навукі. Я вучылася ў медыцынскай акадэміі, занятаў было вельмі многа. Я не ўяўляла сабе, як бы я з усім гэтым парадзіла, якая ж бы ў мяне была будучыня без прафесіі!

Так што мы рашыліся на аборт, хаця надалей моцна кахалі адно другое.

Калі мы закончылі школу і пажаніліся, захацелася мець дзіця. Мы ўжо працавалі, не было, здавалася, перашкод на дарозе да будовы шчаслівай сям'і. Атрымалі нават (яшчэ за невялікія грошы) мілую кватэрку з двух пакояў. Але мінула пару гадоў, а дзіця не паяўлялася. Я пайшла да доктара. Высветлілася, што пасля таго няшчаснага аборта я не магу мець дзяцей. Аднак, можна яшчэ лячыцца, прабаваць. Я пачала лячыцца. Лячэнне было вельмі балючае, проста катаржнае, але і так нічога не выходзіла.

У маіх адносінах з мужам таксама паявіўся нейкі холад. Раней мы былі шчаслівыя, жылі надзеяй, што ўсё будзе так, як запланавалі. А цяпер рынула ўсё. Надзеі ўсё менш. Муж штораз больш з усяго незадаволены. А найгоршае тое, што сварымся часта ўжо без ніякай прычыны. Перагаворымся, пасля не адзываемся адзін да другога, а калі мірымся, дык нават не памятаем, за што сварыліся.

А сварымся ўсё часцей. Уласна кажучы, сёння рэдка здараюцца дні, калі мы ў добрым настроі ды згодныя. Усё пачало нас дражніць, нават маленькія і нічога не значачыя справы.

Дарагое Сэрцайка! Наша сямейнае шчасце развальваецца на вачах, і няма на гэта ніякага ратунку. Што можа ўтрымаць нас у сямейнай згодзе, мо ты нешта параіш?

**Віялета**

Віялета! Чалавек апамятаецца, а тут ужо і позна. Рызыкаваць бяздзетнасцю, робячы аборт пры першай цяжарнасці, могуць толькі неразумныя людзі. Пасля, калі дзяцей няма, жыццё іх становіцца пустое, пазбаўленае сэнсу. Дзеля каго тады жыць, чым цешыцца, каму ўсё нажытае пакінуць? Дзеці ж - наша надзея, а без надзеі - не жыццё... Людзі ў такім стане пачынаюць чапляцца адзін да другога без прычыны, без патрэбы, не памятаючы, за што сварыліся, бо прычына не ў гэтым, а ў нечым большым. Іх узаемныя прэтэнзіі забіваюць каханне паволі, але кансеквентна.

Многія людзі справу нараджэння дзяцей адкладаюць на пасля - калі ўжо будзе закончана школа, калі будзе кватэра, мэбля, калі будуць умовы. Мо гэта і добра - так планаваць, але ж не тады, калі... дзіця ўжо ў дарозе. Сталася - трэ было радзіць, а пасля пабачылі б. Мо бацькі дапамаглі б; а мо і калегі з інтэрната...

Мая рада: будзь упартай і цярплівай, рэгулярна хадзі да доктара. Мо яшчэ нешта выйдзе.

**СЭРЦАЙКА**

***********************************************

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Сніцца мне, быццам я ў бальніцы, дзе ляжыць мой муж. Я даведваюся ад лекара, які яго лечыць, што на хворае сэрца майго мужа няма іншай рады, як толькі аперацыя. Я пачынаю ў роспачы плакаць, пытаю лекара, ці не ўдалося б неяк яго вылечыць без аперацыі, але лекар цвёрда адказвае мне, што такой магчымасці няма.

Другі момант. Я іду на розныя іншыя аддзяленні гэтай бальніцы. Пытаюся ў кожнага напатканага лекара, ці не змаглі б яны неяк яму дапамагчы, але яны толькі раскладаюць рукі.

І трэці момант. Я ўжо ў думках амаль пахавала свайго мужа. Плачу ўвесь час. І тут даведваюся, што дачка вырашыла пахаваць бацьку не на праваслаўных могілках, а на каталіцкіх (мы праваслаўныя, а дачка перахрысцілася на каталічку, бо выйшла замуж за католіка). Я ўвесь час была ў бальніцы і нічога пра гэта не ведала, а калі даведалася, дык пачала яшчэ мацней плакаць.

Што можа абазначаць гэты сон?

**Люся**

Выехала я за граніцу. Ужо год я тут, але думкамі ўвесь час я з роднымі. Пісалі мне, што бацька моцна хворы быў, але ўжо ўсё ў парадку. А тут вось прысніўся мне сон, які не дае мне спакою. Сніцца мне мой бацька, ды такі хворы, што няма ратунку - у яго рак горла. Я моцна, моцна плачу. Так і прачнулася.

**Аля**

Люся! Твой сон прадвяшчае добрае. Ты была ў мужа ў бальніцы і гэта абазначала б для цябе здароўе, шчасце, прыбытак, поспех. Наведвала хворага - будзе неспадзяванае шчасце. Выглядае, што і муж твой будзе здаровы, ды чакае вас сямейная згода.

Твае слёзы таксама сведчаць аб вялікай сямейнай радасці.

Аля! Твой сон і твайму бацьку прадвяшчае добрае здароўе, а цябе можа спаткаць пасля нейкіх клопатаў /бацька/ радасць, бо ты, хаця не наведвала яго ў сне хворага, то думкамі была з ім.

**АСТРОН**

# Зорка
## Старонка для дзяцей



**Сяргею Новіку–Пяюну - 85 гадоў.** Шчыра дзякуем за вершы і песні! Жадаем Вам яшчэ многа здароўя, радасці і доўгіх, сонечных гадоў.

**Сяргей Новік-Пяюн**

* * *

Шчаслівым будзе той заўсёды,
Вясну хто ў сэрцы захавае,
Душу хто маладую мае,
Шчаслівым будзе той заўсёды.

Хоць іней голаў асыпае,
Хоць стрэнуць мо жыцця нягоды,
Шчаслівым будзе той заўсёды,
Вясну хто ў сэрцы захавае.

*1944 г.*

### НЕ ПАДАЙ ДУХАМ ТЫ НІКОЛІ!

Не падай духам ты ніколі,
З бядой змагацца будзь гатоў,
З няволі рвіся ўсцяж да волі,
З сабою разам кліч братоў!

Радзіма мужных патрабуе,
Нязломных іх, у барацьбе,
Бо толькі моцны дух ратуе,
І дасць свабоду ён табе.

*1944 г.*

### НОЧКА

Сонца палючае,
Сонца жывучае
    Скончыла дзённы абход.
Зорачкі ясныя,
Зоркі бліскучыя
    У небе вядуць карагод.

Месячык беленькі,
Месячык чысты
    З хмарак свой твар паказаў.
З рэчкі спакойнай,
З рэчкі празрыстай
    Ветрык у клёнах пяяў.

Летняя ночка,
Як маці, калыша
    Стомлены працай народ.
Зорачкі ясныя,
Зоркі бліскучыя
    Свой павялі карагод.

*1928 г.*

### БОЙ

Ой, які прыгожы мой
Цюцік, што завецца Бой,
З чорнай спінкай,
    сівы ледзь
І калматы, як мядзведзь.

Поўсць ягоная, як шоўк,
Зубы скаліць ён, як воўк,
А кудлатка-галава,
Сапраўды, нібы у льва.

Гаўкне - аж зямля дрыжыць!
Найсмялейшы набяжыць,
Уцякае, хто куды,
Каб чым далей ад бяды.

Ды вы, дзетачкі, смялей!
Вельмі любіць Бой дзяцей,
У любы прыходзьце час,
Не пакрыўдзіць Бой мой вас.

Белым хвосцікам махне,
Рукі ветліва лізне:
„Не пабруджу вас, не, не!..
Лапкі белыя ў мяне!..

Мушу вам яшчэ сказаць,
Лапку ўмею падаваць!.."
Вось які разумны мой
Верны, шчыры цюцік Бой!

*1944 г.*

**********************************************************************

# „БЕТУЛЯ АЛЬБА”

**УЛАДЗІМІР МАЛАШКЕВІЧ**

( 2 )

У бульдазярыстаў была пераменка. Мужчыну ў саламяным капялюшы прыйшоў змяніць высокі хлопец у цяльняшцы.

Трактарыст выслухаў Юрку і сказаў:

- Такое дрэўца нам самім шкада. А што зробіш? Тут школьны стадыён будзе.

- Вы яго пакуль што не чапайце, - папрасіў Юрка.

Мужчыны пераглянуліся. Яны добра ведалі, што з хлапчуковай задумы нічога не выйдзе. Ды вельмі спадабаўся ім гэты белагаловік.

- Добра, - паабяцаў былы марак, - пакуль можна будзе, не зачэпім дрэўца. Калі ж начальства загадае, тут нічога не зробіш.

Апошнія словы навялі Юрку на думку, што трэба шукаць гэтае самае начальства, ад якога ўсё залежыць. І хлопчык накіраваўся да блакітнага вагончыка, на якім здалёк можна было прачытаць: „Прарабская". Ніжэй вісела вялікая шыльда: „Дэпутацкі пост на будаўніцтве сярэдняй школы. Дэпутат гарадскога Савета народных дэпутатаў Тарашкевіч Пётр Паўлавіч, начальнік мантажнага трэста „Белэлектрамантаж". Тэлефон: 45-01-29. Сярэдняя школа на 1576 месц. Тэрмін уводу: трэці квартал".

Затаіўшы дыханне, пастукаў у дзверы. Там было ціха. Юрка пацягнуў за ручку, дзверы адчыніліся. На доўгім стале з дошак былі раскіданыя даміно, чарцяжы, нейкія паперы. У кутку на тумбачцы стаяў белы тэлефон. Юрка хутка набраў нумар, які бачыў на шыльдзе. Запытаў Пятра Паўлавіча. Жаночы голас адказаў, што Пётр Паўлавіч знаходзіцца на аб'ектах і калі вернецца, невядома.

У гэты час у адчыненыя дзверы ўвайшоў мужчына ў шлеме.

- Ты што тут робіш, хлопча? - пацікавіўся ён. Падыйшоў да вядра, зачарпнуў кубкам вады і пачаў піць.

- Вы кім будзеце? - набраўся смеласці і запытаў Юрка.

- Праграб, - адказаў будаўнік, напіўшыся. - А ты, напэўна, з піянерскай газеты? Юнкор. Хочаш даведацца, хто школу будуе табе.

- Ага, юнкор, - ледзь не падскочыў Юрка. Нечаканая ідэя раптам быццам акрыліла яго. - Хачу напісаць у піянерскую газету.

- Пра што? - пацікавіўся прараб. Відаць было, што яму ўжо не адзін раз даводзілася сустракацца з карэспандэнтамі, бачыць сваё прозвішча на старонках газеты.

- Пра „бетулю альбу"...

- Пра што, пра што? - аж прыжмурыўся здзіўлены прараб.

Давялося Юрку ўсё расказаць. І пра тое, што ад Вольгі Максімаўны пачуў, і пра тое, што сам думаў.

- Тваё пісьмо яшчэ будзе ляжаць у паштовай скрынцы, калі мы выкарчуем дрэўца, - выслухаўшы хлопчыка, сказаў прараб. - Гэта ж будоўля, дарагі, і нам трэба выконваць план. Тым больш, што першага верасня на носе.

- І нічога нельга зрабіць? - ледзь не заплакаў Юрка.

- Каб гэта была палявая кветка, накшталт рамонка, дык можна было б лёгка перасадзіць...

Да вагончыка падкаціла чорная „Волга". Юрка бачыў у адчыненыя дзверы, як з машыны выйшаў чалавек у бежавай кашулі. Павітаўся з прарабам. Падаў руку і Юрку.

- Твой?

- Ды не, Пётр Паўлавіч, - неяк сумеўшыся, адказаў прараб.

- А я толькі што званіў вам, Пётр Паўлавіч, - рашуча выступіў наперад Юрка. Бо ён ужо здагадаўся, кім быў гэты загарэлы, са стомленым тварам немалады чалавек.

- Гэта ж па якой такой важнай справе? - ледзь бачная ўсмешка кранула вусны Тарашкевіча.

- Ідзі ты лепей, хлопча, дахаты - прараб узяў Юрку за плечы і пачаў штурхаць да выхаду. - І без цябе хапае турбот.

- Пачакай, Іванавіч, трэба даведацца, што за справа ў грамадзяніна. Я ж дэпутат, сам разумееш... Чалавек з нечым прыйшоў да нас... Праўду я кажу? - звярнуўся потым да Юркі.

Юрка гаварыў спяшаючыся. Баяўся, што ў гэтага сур'ёзнага стомленага на выгляд чалавека не хопіць цярпення выслухаць яго да канца. Таму выходзіла даволі блытана.

*(Працяг у наступным нумары)*




**АЛЕСЬ МАЗУР**

Песні няхітрай маёй аснова -
Матчына мова, родная мова.
Нібы з гаючай лясное крыніцы,
З мовы вытокаў жадаю напіцца...
Вось загучалі цудоўныя словы -
Ластаўка, любая, ранак вясновы,
Дожджык, каханне, усмешка, дзянніца...
Слова спявае і весяліцца.
Слова смуткуе, марыць, смяецца,
Роднае слова ірвецца ў сэрца.
Песні няхітрай маёй аснова -
Матчына мова, родная мова.

**ВАСІЛЬ ШЫРКО**

Клён, мой клён,
Суцішні, калі ласка,
У вясновы вечар памаўчы.
Чуеш ты, як залатою казкай
Мая мова родная гучыць?

У дарозе горнай і далёкай
Мне радзіма
    блізкая, хоць плач.
Чую я світальных буслаў клёкат,
Чую, як рыпіць у лузе драч.

У няблізкай ад бароў старонцы
Я табой да тканачак гару,
Хоць адно сагрэла шчыра сонца
Росны бор і снежную гару.

Клён, мой клён,
Суцішні, калі ласка,
Пад разлівам позняе зары,
Слухаю найроднейшую казку.
Гавары, зямляча, гавары.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

(З балгарскага гумару)

*

Хлопчык упершыню пайшоў у школу.
- Ну, малы, чаму цябе там навучылі? - пытае маці, калі ён вярнуўся дамоў.
- Сказалі заўтра зноў прыйсці.

**Пераклаў В. Бабей.**

*

У хлопчыка разбітае калена.
- Ты падаў, маленькі?
- Падаў...
- Плакаў?
- Не, паблізу нікога не было...



## Вершы Віктара Шведа

### СОНЦА З МЯТЛОЮ

- Прыйдзе неўзабаве сонца, -
Дзецям мовіць дзед Алег, -
Падмяце ва ўсёй старонцы
Пачарнелы брудны снег.

- Як жа зразумець мне толкам, -
Адазваўся Апанас, -
Ці хто бачыў, каб з мяцёлкай
Сонейка вітала нас?

### ЧАМУ КОНЬ ДЫМІЦЬ?

Мароз, цішыня,
Снегавы скрозь дыван,
А з ноздраў каня
Пары цэлы туман.

Пытае Лявонь,
Што на санях сядзіць:
- Чаму гэты конь
Безупынку дыміць?

### ПАДРЫХТАВАНЫ НА НАЙГОРШАЕ

Да экзамена рыхтуецца сыночак,
Весялосці няма нават следу.
Таму бацька вельмі ведаць хоча,
Ці сынок засвоіў добра веды.

І таму ён задае пытанні:
- Ці ў цябе, сынок, усё ў парадку,
Ці ты сапраўды падрыхтаваны?
- Нават на найгоршае, мой татка.

## ЛЕГЕНДЫ НАШАЙ ЗЯМЛІ

### ЗЯЗЮЛЬЧЫНЫ СЛЁЗЫ

Ніхто з нас не памятае старажытных гадоў. А вось калісь, даўно, даўно, у нейкай старонцы, мо' гэта і ў нашай, жыў бедны-прабедны Максім. Меў ён хатку сякую-такую (хоць, праўду кажучы, вуглы не падпіраў). Каня ці кароўку якую Максіму меці бог не даў. На дзетак бог не скупіўся, знаць, моцна беднага любіў, хаць нядаўна той Максім ажаніўся, а ўжо пяць яму паслаў.

Была ў Максіма сястрычка багатая, але зайздросная і скупая. Усім на здзіўленне. Прыйшоў год неўраджаю, прапалі і хлябы на палях Максімкі, хоць і ў працы старанны. Як хоць да зімы дажыць, пракалатацца. Настала зіма. Плача, енчыць галодная дзетвара, а стравы нават і лыжкі няма. І з думкаю: можа, сястра забудзе сваю скупасць ліхую для бедных галодных дзяцей - ён крочыць уперад жывей. Прыйшоў, перад харомамі сястры ён стаў. Сястрыца ў акно зірнула.

- Прапалі, - кажа, - ад клеці ключы, нат сабе хлеба не дасталі. Свабодна, шчаслівы ты сабе, Максімка, дамоў ідзі.

Максім перад харомамі сястрыцы стаяў і ад холаду, голаду і крыўды вялікай сканаў на тым месцы. На ранак сястра ў акно глядзіць і крычыць:

- Прачніся, Максімка, прачніся, знайшліся ключы!

Але дарэмна несліся жахлівыя крыкі сястры. У міг у зязюлю замянілася скупая сястра, адзін узмах крыллямі, другі, і над гумнамі парэяла яна.

З тых пор яна лётае над гняздзечкамі, сваіх не ўе і толькі сумна кукуе: ку-ку, ку-ку, а як прыслухацца к гэтаму кукаванню, то ў ім чутна:

- Прачніся, Максімка, прачніся, Максімка, знайшліся ключы!

Кукуе яна і слёзы льець, а дзе тыя слёзы на зямлю ўпадуць - там пышныя і прыгожыя кветкі цвітуць, і тыя кветкі зязюльчынымі слязьмі завуцца.

*(З кніжкі „Легенды і паданні")*

Беларускія гульні

## КАЗІНЫ РОГ

Дзве каманды дзяцей знаходзяцца на пэўнай адлегласці адна ад адной. У кожнага ў руках палка. Адна з каманд коціць драўляны шар у бок процілеглай каманды, тыя адбіваюць яго назад ці ловяць на сваёй мяжы-рысе і вяртаюць першай камандзе.

Калі шар пераляціць цераз мяжу-рысу, каманда, што ахоўвае яе, адыходзіць да таго месца, куды закаціўся шар. Тады пра яе гавораць:

- Загналі ў казіны рог!

Каманда-пераможца атрымлівае ацэнку, і гульня працягваецца.

Шар дазваляецца толькі каціць.

## СКОРАГАВОРКІ

**Х. Ляшкевіч**

Асаку каса касіла, асака касу прасіла:
- Не касі мяне, каса, згіне ўся мая краса.

**А. Зэкаў**

Рак-гарэза з рыбай разам
З рэчкі рыбака дражніў,
А рыбак у рэчцы ракаў
Разам з рыбаю лавіў.

## МЯДЗВЕДЗЕВА РАДНЯ

Ішлі па лесе Мядзведзь і Заяц. Глядзяць: на беразе лясной рэчкі, на вярбовай галінцы, Зімародак сядзіць, рыбу ў вадзе выглядае. Вось сарваўся з галінкі, нырнуў - толькі кругі па вадзе пайшлі. Праз момант вынырнуў, зноў на галінку сеў. У дзюбе - рыбка маленькая, з палец-мезенец.

- Па рыбаку і ўлоў, - зарагатаў Мядзведзь. - Ведаеш, касы, хто сапраўдны рыбак? Мой брат - Белы Мядзведзь. Далёка на поўначы жыве ён, рыбу ў моры ловіць. А часам і маржа сабе на абед упалюе.

Ідуць яны далей. Аж бачаць, над галовамі Куніца скача. З галінкі на галінку, з дрэва на дрэва. Убачыла іх - у дупло схавалася. Заяц і кажа:

- Зайздрошчу Куніцы. У яе жыллё цёплае, на высокім дрэве - ніхто не дастане.

Мядзведзь не згадзіўся:

- Падумаеш, дупло! Што гэта за дом?! А галоўнае - чужы: дзятла прагнала, а сама гаспадыняй стала. Паглядзеў бы ты, касы, які дом у майго брата - Чорнага Мядзведзя. Ён у тайзе жыве, сам сабе жыллё рыхтуе. Знойдзе дрэва з падгнілым ствалом, узлезе вышэй і прагрызе дупло. Прасторнае, сухое. Там і зімуе. Гудзе сярдзітая завея, мароз люты трашчыць, дрэвы калышуцца, Чорны Мядзведзь быццам у калысцы ляжыць. Сны салодкія сніць.

Тым часам выбіліся яны на лясную паляну. А на той паляне - банкет на ўвесь свет. Старая Курапатка сваю сямейку мурашынымі лічынкамі частуе. Ядуць ды хваляць: - смачна!

Мядзведзь і кажа:

-

І ахвота ім гэтыя лічынкі па адной збіраць. У індыйскіх джунглях жыве мой трэці брат - Мядзведзь Губач. Цэлы мурашыны статак злізвае ў абед. А то знойдзе бананавае дрэва, выцягне губы ў трубачку ды з такой сілай удыхне паветра, што салодкія бананы самі ляцяць у рот.

Тут Мядзведзь на сухую галіну наступіў. Трэснула яна - як хто з ружжа стрэліў. Непадалёку Вавёрка грыбы збірала, на зіму запасалася. Заяц і маргнуць не паспеў, як апынулася яна, спалоханая, на вершаліне вялікай сасны.

- Ну і жвавая! - пахваліў Заяц. - Лётае па дрэвах, як па зямлі.

- Праўду кажаш, - згадзіўся Мядзведзь. - Мне, старому, цяжка ўзбірацца на дрэва. Ды ёсць у мяне чацвёрты брат, малодшы - Бамбукавы Мядзведзь. Жыве ён у высокіх Гімалайскіх гарах. Кожны дзень залазіць на бамбук, каб паласавацца смачным лісцем. А ствол гладкі, без адзінага сучка. Верхалазу гэтаму, касы, і Вавёрка пазайздросціць...

Шмат гадоў сябраваў Заяц з Мядзведзем, а не ведаў, што ў яго такая вялікая радня.

Міхась Застольскі

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А




Хто дзе жыве?




З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.

- 46 -

На тэрыторыі цэнтральнай Літвы дзейнічалі ў гэты час наступныя беларускія палітычныя групоўкі:

1) Самай сур'ёзнай арганізацыяй, якая мела найбольшыя ўплывы, быў Беларускі народны камітэт. У гэтай арганізацыі сабраліся найвыдатнейшыя інтэлектуальныя сілы. Камітэт намагаўся падпарадкаваць сабе ўрад Ластоўскага і з гэтай мэтай утрымліваў з ім пастаянную лучнасць, даючы яму ўсякую магчымую дапамогу. Апрача гэтага, камітэт утрымліваў кантакт з усімі беларускімі групамі ўключна з камуністамі.

Грамадская праграма гэтай арганізацыі мела радыкальны характар; палітычна імкнуўся ён да стварэння Вялікага княства Беларуска-літоўскага (Літоўска-беларускай рэспублікі) з агульнымі межамі на поўнач і ўсход ад Буга і Нарвы аж да Дзвіны.

Як актуальную праграму ў 1921 годзе Віленскі Беларускі народны камітэт лічыў стварэнне беларускага кантона з поўнай нацыянальна-культурнай аўтаноміяй і поўнымі дзяржаўнымі рысамі, перад усім з войскам у межах прынамсі чатырох паветаў: Ашмянскага, Навагрудскага, Слонімскага і Баранавіцкага. Такая канцэпцыя не выключала федэрацыю з Польшчай. У 1921 годзе Віленскі Беларускі народны камітэт акрэсліўся і падтрымаў праект Гыманса з мадыфікацыямі ў карысць беларускай мовы на тэрыторыі віленскага кантона, трактаванага як тэрытарыяльная, а не нацыянальная адзінка. У чэрвені 1921 года быў накіраваны ліст у Лігу нацый з наступным зместам:

Да яго Правасхадзіцельства Прэзідэнта Лігі нацый

Ваша Правасхадзіцельства!

Гымансоўскі праект прыязнага вырашэння польска-літоўскай спрэчкі ў адносінах да беларускай тэрыторыі, адна трэцяя якой без згоды насельніцтва была аддадзена Літве (паводле трактата, заключанага ў Маскве ад 12 ліпеня 1920 года), а другая частка перададзена Польшчы (паводле рыжскага трактата), у сваіх прынцыпах быў прыняты прыхільна беларускім насельніцтвам з успомненай тэрыторыі.

Аднак, каб інтарэсы гэтага насельніцтва не пацярпелі ні з аднаго, ні з другога боку, мы, яго прадстаўнікі, просім Ваша Правасхадзіцельства ўзяць пад увагу наступныя факты:

1) Падзел нашай тэрыторыі, частка якой прызнана Польшчай як Савецкая Беларусь, прыносіць шкоду не толькі ідэі нашай незалежнасці і суверэннасці, але і ўсёй нашай дэмакратыі, штандарам якой з'яўляецца дэмакратычная, а не савецкая рэспубліка (паўстанні: слуцкае, ігуменскае, віцебскае, смаленскае і ў нейтральнай паласе). Беларускае насельніцтва перакананае, што такое грубае парушэнне прынцыпу самавызначэння народамі свайго лёсу, прынцыпу, прызнанага дэмакратыяй усяго свету, прынцыпу, на якім абапіраецца версальскі трактат, не можа вырашыць усходнія праблемы. Раней ці пазней гэты штучны падзел будзе ліквідаваны шляхам аб'яднання ўсіх частак Беларускай Рэспублікі Дэмакратычнай і Незалежнай.

Маючы на ўвазе, што падзел нашай тэрыторыі з'яўляецца грозным у адносінах да існавання беларускага народа, дамагаемся, каб падзел Заходняй Беларусі між Польшчай і Літвой зараз жа быў ліквідаваны і каб кантанальная арганізацыя, прапанаваная Гымансам, агарнула ўсе беларускія тэрыторыі, якія не належаць ані Расіі, ані Савецкай Беларусі (былая Гродзенская губерня, Віленская і заходняя частка Мінскай).

*( Працяг будзе )*




## ЗАПАСЫ НА ЗІМУ

**Пікле з агуркоў**

На 1 кг спелых, ужо пажоўклых агуркоў трэба ўзяць 5 дэкаў солі, паўшклянкі вады, паўшклянкі воцату (найлепш віннага), 8 зубкоў часнаку, лыжачку каляндры з гарчыцай, 15 дэкаў цукру, некалькі гваздзік.

Агуркі памыць, асушыць, абабраць. Кожны агурок перарэзаць уздоўж напалавіну, выняць з яго семечкі. Кожную палавінку перарэзаць уздоўж на 4 - 5 частак, палажыць у місачку і перасыпаць соллю. Накрыць талерачкай, прыціснуць нечым цяжкім і так пакінуць нанач. На наступны дзень адцадзіць агуркі, злажыць іх у вывараныя ці выпражаныя слоікі, перакладаючы зубкамі часнаку і перасыпаючы зярнятамі гарчыцы, каляндры і гваздзікай. Заліць заліўкай з вады з воцатам і цукрам. Зачыніць слоікі закруткамі з пергаментнай паперай.

Пастэрызаваць пікле ў кіпячай вадзе на працягу 20 мінут. Адразу выняць і астудзіць. Перахоўваць у халодным, цёмным памяшканні.

**Пікле з гародніны**

На 1 кг спелых, пажоўклых агуркоў трэба ўзяць 10 дэкаў хрэну, 6 - 8 зубкоў часнаку, 20 дэкаў морквы, 20 дэкаў цвятной капусты, 20 дэкаў шпараговай фасолькі, лыжачку гарчыцы, 5 дэкаў солі, лыжачку каляндры, 3 - 5 лыжак муштарды, 5 дэкаў цукру, шклянку віннага воцату.

Гародніну памыць, ачысціць. Агуркі перарэзаць уздоўж, выняць з іх мякіш. Палавінкі агуркоў нарэзаць уздоўж на часцінкі, якія перарэзваем яшчэ ўпоперак напалавіну. Моркву нарэзаць скрылёчкамі, цвятную капусту падзяліць на ружачкі, а струкі шпараговай фасолькі падзяліць на палавінкі. Усе падрыхтаваныя прадукты палажыць у кіпячую ваду, варыць каля 5 мінут, адцадзіць.

2 шклянкі вады закіпяціць з воцатам, цукрам і соллю, перамяшаць з муштардай. Памыты хрэн ачысціць і сцерці на бурачанай тарцы. Падрыхтаваную гародніну злажыць у слоікі, дадаючы да кожнага адпаведную колькасць часнаку і хрэну і перасыпаючы зярнятамі гарчыцы і каляндры. Заліць падрыхтаванай вадкасцю. Слоікі „твіст" зачыніць закруткамі з пергаментнай паперай у сярэдзіне. Пастэрызаваць мінут 20 у кіпячай вадзе або ў духоўцы пры тэмпературы 90 градусаў Ц. Перахоўваць у халодным, цёмным памяшканні.

**Пікле па-англійску**

На 2 сярэднія цвятныя капусты (калафёры) трэба ўзяць 20 дэкаў морквы, 1 сэлер сярэдняй велічыні, 15 маленькіх цыбулінак (шалотак), 1 корань хрэну, 4 лыжкі муштарды, паўтары лыжкі 4-працэнтнага воцату, соль, цукар, лаўровыя лісткі, англійскае зелле (пахучы перац), каляндру, шклянку вады.

Гародніну памыць, ачысціць, спаласнуць. Цвятную капусту падзяліць на ружачкі, моркву і сэлер нарэзаць палоскамі, цыбульку пакінуць цэлай. Падрыхтаваную гародніну палажыць у кіпячую, пасоленую ваду з цукрам. Зварыць яе, памятаючы, што цвятная капуста гатуецца найхутчэй, дастаткова 10 мінут. Звараную гародніну адцадзіць, класці ў падрыхтаваныя вывараныя слоікі, перасыпаючы струганым хрэнам. Воцат закіпяціць з вадою, прыправамі і некалькімі лыжкамі цукру (4 - 5), перамяшаць з муштардай. Падрыхтаванай заліўкай заліць гародніну, зачыніць закруткамі з пергаментнай паперай і пастэрызаваць на працягу 20 мінут.

ГАСПАДЫНЯ

## КРАМА Ў ЗУБАВЕ

Ужо амаль год прадаўшчыцай у Зубаве, што ў Бельскай гміне, працуе маладая жыхарка суседняй вёскі Сакі Галіна Чыж. Дбае яна, каб у краме было многа тавараў, патрэбных у штодзённым жыцці сялян, асабліва ў жніўны час. Можна тут купіць хлеб, мяса, піва, парашкі, школьныя наборы, шпагат, а нават веласіпеды і многія іншыя тавары. Галіна Чыж прыязджае таргаваць і ў вольную суботу, а часам і ў нядзелю, каб тавар не псаваўся і каб кожны селянін мог патрэбнае купіць у свабодны ад працы час. Хаця прадаўшчыца яшчэ маладая, але ведае працу і добрасумленная.

Раней у краме таргаваў Алёша Паўлючук, які адышоў на пенсію. Таксама сумленны быў прадавец. Жыхары жадаюць яму добрага здароўя на заслужаным адпачынку, а Галіне Чыж - усяго найлепшага ў яе працы і мілых кліентаў.

Ж. М.

## ВЕСТКІ З СЕМЯНОЎКІ

Семяноўскага ПУМа (пункт сельскагаспадарчых паслуг) поўнасцю не ліквідавалі. Працуе тут трох трактарыстаў. Іх кіраўнік знаходзіцца ў Нараўцы. Вы-конваюць яны людзям усе палявыя работы.

У прыватнай краме дазволілі прадаваць піва. Пачала дзейнічаць яшчэ адна прыватная крама, а яе ўласнік прадае піва і піражнае.

Хто мае час, можа добра зарабіць. У трох пунктах прымаюць лісічкі. Па-розначу плоцяць у кожным пункце. Найтаннейшыя грыбы на пункце скупкі, які знаходзіцца ў доме Ю. Аніскевіча, а най-даражэйшыя - у М. Шыманюк

На панадворку А. Здаshowскага прымаюцца лекавыя зёлкі. Іх купляе ў кожны чацвер працаўнік бельскай фірмы „Гербаполь". Зёлкі прымаюцца сухімі.

АЎРОРА

( Працяг са стар. 4 )

## БЕЛАРУСКІЯ НАВІНЫ-2

Беларусы як нацыя не выпрацавалі свае канцэпцыі дэмакратыі - канцэпцыі такой не мае і БДА. Таму Аб'яднанне прыхіляецца да ліберальнай мадэлі дэмакратыі, якая функцыянуе ў Заходняй Еўропе ці ЗША, мадэлі, якая, не ведаючы свае канчатковае мэты, ставіць націск на прагматычныя метады яе дасягнення, а не на строга ідэалагічны курс.

Другі нумар „Беларускіх навін" завяршаецца гістарычным нарысам Алега Латышонка „Беласточчына і народзіны беларускае думкі".

Другі нумар „Беларускіх навін" адрэдагаваны старым правапісам, які на фоне БССРаўскіх „нефармалак" адзначаецца канчатковай упарадкаванасцю і можа служыць пэўным узорам. Рэдактар выпуску Ян Максімюк. Склад нумару на ніўскай апаратуры выканалі Галіна Раманюк і Уладзіслаў Петрук.

В. П.

## БЕЛЬСКІЯ ПАЖАРНІКІ

У чэрвені ў Бельску-Падляшскім адбыўся чарговы VI з'езд Гміннага саюза Добраахвотных пажарных камандаў. У з'ездзе прымалі ўдзел прадстаўнікі гмінных і ваяводскіх улад, а шматгадовы начальнік пажарнай каманды ў Кнарыдах Эдуард Базылюк атрымаў Залаты знак з рук ваяводскага каменданта Кшыштофа Вайтэцкага. З'езд выбраў новае гміннае праўленне. Старшынёю выбраны Вячаслаў Мышко з Парцава (адначасна старшыня Гміннай рады нарадовай у Бельску), ягонымі намеснікамі - Анатоль Вышкоўскі з Аўгустова і Яніна Сяргейчык з Бельска, сакратаром - Валянціна Валасовіч, а скарбнікам - Мікалай Якубюк (абое працуюць у Гміннай управе). Абавязкі старшыні Рэвізійнай камісіі даручаны Анатолю Верамеюку з Аўгустова.

У гміне Бельск-Падляшскі працуе 15 пажарных камандаў, якія налічваюць 330 пажарнікаў. Дзейнічаюць дзве жаночыя каманды - у Райску і Кнарыдах, і маладзёжныя: мужчынскія - у школах у Аўгустове, Лубіне-Касцельным, Баньках, Балестах і Пасынках, а жаночыя - у Аўгустове і Балестах. Асаблівую актыўнасць у працы з маладзёжнымі камандамі праяўляюць дырэктары школ: у Пасынках - Яўген Хількевіч і ў Аўгустове - Валянцін Гліва.

Першыя пажарныя каманды ў гміне Бельск-Падляшскі паўсталі ў міжваенны перыяд. У 1928 годзе заснаваліся каманды ў Галадах і Мокрым, у 1930 - у Аўгустове, а ў 1933 - у Кнарыдах. Астатнія пажарныя каманды ўзніклі ў гадах 1952-1970: Лубін-Касцельны (1952), Плёскі (1961), Плюцічы (1962), Кнаразы (1963), Банькі (1964), Арэхвічы (1965), Пасынкі (1966), Плёскі (1968), Кожына (1969), Стрыкі (1969), Райск (1970).

Пажарнікі апрача тушэння пажараў вялі шырокую прафілактычную дзейнасць. Правялі яны многа кантроляў у вёсках і лясах, ладзілі спаборніцтвы паміж камандамі, грамадскім чынам будавалі супрацьпажарныя абсталяванні, займаліся са школьнікамі. Гміннае праўленне Саюза добраахвотных пажарных камандаў у Бельску, мабыць, адзінае ў ваяводстве, мае ўласны пажарны музей, які знаходзіцца ў Райску. У Бельскай гміне добрая тэлефонная і дарожная сувязь паміж паасобнымі вёскамі. Да 1990 года было пабудавана 17 вясковых водаправодаў. У гэтым годзе здадзены ў карыстанне водаправоды ў Дубяжыне і ў Мокрым, а будуюцца - у Кнаразах і Варонях. Да 1986 года пабудавалі восем і мадэрнізавалі тры пажарныя дэпо. У Галадах рамонт арганізаваў начальнік мясцовай каманды Міхал Пятроўскі.

Гміннае праўленне супольна з Раённай камендатурай арганізуюць спартыўна-пажарныя спаборніцтвы. Кожны год праводзяцца гмінныя элімінацыі конкурсу „Моладзь супрацьдзейнічае пажарам". У гэтым годзе ў конкурсе пажарных ведаў у ваяводскія элімінацыі прайшоў вучань Падставовай школы ў Храбалах Баляслаў Грынявіцкі.

Ад гэтага года пажарныя каманды фінансуе Гмінная ўправа. На іх дзейнасць у гмінным бюджэце запланавана 147 мільёнаў злотых.

МІКАЛАЙ ЯКУБЮК

## ІМПАРТНАЯ „САЛАТА"

Студэнт дзеліцца з таварышам уражаннямі з лекцыі ў інстытуце:

- Аказваецца, Бойль - Марыёт - гэта два чалавекі, Гей-Люсак - адзін, а Слава КПСС - наогул не чалавек.

*

- Спадар адвакат, колькі вы бярэце за паслугі?

- За адказ на два пытанні бяру сто доляраў. Давайце другое пытанне.

*

Да рыбакоў падыходзіць вожык.

- Вы чорную ікру есці будзеце?

- Будзем, вядома.

- Калі пачнеце, паклічце мяне!

*

- У мяне цудоўны сабака. Кожную раніцу ён прыносіць мне свежыя газеты.

- Падумаеш! Гэта ўмеюць многія сабакі.

- Так, але фокус у тым, што я не выпісваю ніводнай газеты.

*

Увечары муж нервова паходжвае перад домам:

- Трывожуся аб сваёй жонцы.

- А што з ёй?

- З ёй мой аўтамабіль...

*

- Паслухай, Джон, як цудоўна пяе салавей, - прашаптала жонка.

- Чаму ты здзіўляешся? Ён яшчэ не жанаты, у яго няма даўгоў, зубы ў яго не баляць - чаму б яму і не пець?!

*

- Прашу вас нічога ад мяне не ўтойваць, доктар. Ці зможа мой муж пасля гэтага жудаснага пералому рукі яшчэ калі-небудзь мыць пасуду?..

*

Шафёр гаворыць пасажыру-габраўцу:

- У мяне сапсаваліся тармазы і мы ляцім у прорву!

- У такім выпадку выключыце лічыльнік! - змрочна адказвае габравец.

*Сабраў і пераклаў*
**Валеры Бабей**





*- Глянь, які ён нясмелы...*

## РЭПРЫВАТЫЗАЦЫЯ

Вяртання былога ўладальніка нашай фабрыкі чакалі мы з нейкім непакоем, але і з надзеяй. Прыватны дык прыватны. Сталі мы ўжо марыць аб новых тэхналогіях, акцыях, суполках, даходах, новых рынках збыту...

Уладальнік з'явіўся пунктуальна. Падтрымоўвалі яго тры юрысты. Кіўнуў ён нам прывітанне сівюсенькай галавой і сказаў дрыжачым голасам:

- Столькі, пане дабрадзею, гадоў, столькі гадоў... Пазнаю, а як жа, пазнаю... Мая фабрыка... А персанал, пане дабрадзею, так сказаць, у камплекце?

- У камплекце, - запэўніў наш дырэктар. - Шаноўны пане! У тым, як жа ўрачыстым дні, калі пасля многіх гістарычных няшчасцяў і крыўдаў...

- А дзе лічыльнікі? - нечакана спытаў дзядуля.

- Лічыльнікі? У нас камп'ютэр...

- На маёй фабрыцы заўсёды былі лічыльнікі. Люблю лічыльнікі. Многа лічыльнікаў, пане дабрадзею, гэта залог добрай бухгалтэрыі. Памятаю, працаваў у мяне бухгалтар, Амброжы называўся. А як ён лічыў, пане дабрадзею, аж міла было паглядзець! Грах, трах, і ўсё было палічана. Сумленны быў працаўнік, вельмі сумленны. Толькі лічыльнікі, пане дабрадзею. Лічыльнікі найлепшыя!

Мы пераглянуліся між сабою.

- А што вы зараз, пане дабрадзею, прадукуеце, га?

- Інтэгральныя мікрасістэмы.

- То ўжо не калаўроткі? - засмуціўся дзядуля.

- Не, інтэгральныя мікрасістэмы...

- Сістэма зараз у нас новая, тая ўжо няважная. А тое, што інтэгравалі, пане дабрадзею, парцэляваць будзем. Канец з калгасамі! Зямля інтэграваная, сістэма інтэгральная... Цьфу! Калаўроткі, пане дабрадзею!

У дырэктара рукі апусціліся.

- Хто тут пракурэнт?

- Што такое?

- Пракурэнт, пане дабрадзею!

Сакратарка кінулася глядзець у слоўнік іншамоўных зваротаў.

- У нас ёсць дырэктар па гандлёвых справах...

- Пракурэнту неабходна ехаць да нашых пакупнікоў. Неадкладна, пане дабрадзею. У Вільню, у Ашмяны. І на Валынь! Валынь бярэ найбольш калаўроткаў!

Спецыяліст па інфарматыцы стаў плакаць.

- Бачу, пане дабрадзею, што вы ўзрушыліся, мае каханенькія. Я таксама, я таксама. Буду вам добрым гаспадаром, людскім. Так як да вайны. І прэміі будуць даваенныя. Найлепшым, пане дабрадзею, толькі найлепшым. А граша не пашкадую. Будзе так, як да вайны! Дам вам...

Мы замерлі ў трывожным чаканні.

- Дам вам, пане дабрадзею, штогод на Вялікдзень па шэсць злотых!

**ЗОФ'Я СТЭЦКА**

*(„Карузеля")*

## ВІРАВАНКА
(*шасцілітарная*)

Першую літару слова трэба ўпісаць у клетачку з лікам, астатнія - згодна з рухам гадзіннікавых стрэлак. Як акрэсленні падаюцца тры словы, якія асацыіруюцца з адгадваемым словам.

1) жулік, камбінацыя, спрыт; 2) айчым, жонка, пасынак; 3) матэматыка, мэта, пытанне; 4) карыстанне, маёмасць, дагавор; 5) салдат, старшы, пагон; 6) нага, лета, дрэва; 7) д'ябал, лаянка, рэлігія; 8) жывёла, колькасць, паша; 9) слова, напор, галосная; 10) Расія, Кацярына, улада; 11) Кітай, горад, тканіна; 12) абман, выдумка, размова; 13) Шэкспір, трагедыя, загаловак; 14) насып, труп, кветкі; 15) галава, люстра, пустка; 16) канал, капялюш, дзяржава; 17) справа, барацьба, чалавек; 18) спосаб, форма, прыём; 19) лес, губы, варэнне; 20) сабака, метал, шнур.

**„ядань"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку, змешчаную ў н-ры 28:** метр, грыб, брук, лупа, лапа, кума, гара, кава, альт, лось, гляк, град, вада, брат, сноб, лужа, удод, мода, раса, Одра, жара, дата, мара, саха, рака.



## ПАЧУТАЕ...

Летняя курортная здрада ў каханні - гэта толькі ... экспрэс-любоў.

*

Што найчасцей робяць мужчыны пасля інтымнага кантакту?

5 працэнтаў мужчын паварачваецца на другі бок і засынае, 5 працэнтаў - ідзе ў ванную, 90 працэнтаў - апранаецца і ... ідзе дахаты!

*

Маладая, прыгожая сучасная дзяўчына, як правіла, варыць не ўмее, але мяшаць патрапіць, як мала хто!

*

Няма дзвюх аднолькавых жанчын, і з гэтага абедзве яны небывала цешацца.

******************************************************************************

**Ніва**

„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

*Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.*

*Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa

1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1991 r. upływa 20 sierpnia 1991 r.

2.Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13.000 zł + 6.500 zł za doręczenie.

3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.000 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
- sierpień - 8.000 zł.
- wrzesień - 10. 000 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26.000 zł. Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.